

# БЕЛАРУС

№438 • Верасень-Кастрычнік 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## З АПОРАЙ НА ІНСТЫНКТЫ

Беларусы на эміграцыі часам пытаюцца: чаму задумы Лукашэнкі, якія ў цывілізаванай краіне выклікалі б абурэньне, — на Беларусі значнай часткай насельніцтва успрымаюцца з інтузіязмам і, урэшце, зьдзяйсьняюцца? Ці не існуе каля Лукашэнкі штат прафэсіяналаў, якія дэталёва распрацоўваюць прапагандысцкія акцыі?

Бясспрэчна, людзі ў бліжэйшым крузе Лукашэнкі ёсьць. Гэта палкоўнікі КДБ ды былыя палітрукі (Латыпаў, Замяталін, Посахаў, Шэйман), якія валодаюць адмысловымі прыёмамі прапаганды. Існуюць яшчэ і аналітычныя аддзелы спэцслужбаў, якія зьбіраюць і перапрацоўваюць інфармацыю пра настрої грамадзтва, дзейнасьць апазыцыі, рыхтуюць акцыі, накіраваныя супраць дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі. Няма сумненьняў, што значная частка падобных плянаў распрацоўваецца ў Маскве.

Усё гэта — праўда, але праўда ня поўная. Адвесьці Лукашэнку ролю пакорлівага выканаўцы чыіхсьці праектаў — азначала б значна спрасьціць сытуацыю і праігнараваць усю тую небясьпеку, якая персаніфікаваная ў асобе самога Лукашэнкі. І не ў поўнай ступені разумець працэсы, якія цяпер адбываюцца на Беларусі.

Трэба прызнаць, што ў папулізьме Лукашэнка дасягнуў значнага майстэрства. Ён няблага спазнаў псіхалёгію экс-савецкага чалавека і выкарыстоўвае яе ў сваіх мэтах.

Адрынуўшы шлях дэмакратыі і рынкавых рэформаў (а гэты варыянт патрабаваў бы значных інтэлектуальных высілкаў найперш ад кіраўніка дзяржавы, ды спачатку мог прывесьці і да падзеньня ягонай папулярнасьці), — Лукашэнка выспавядае канцэпцыю вяртаньня ў камуністычную мінуўшчыну, у дыктатуру. Ну а дыктатура заўсёды — гэта змаганьне з ворагамі. І Лукашэнка імкнецца ўцягнуць у пошук ворагаў як мага болей людзей, раскалоць грамадзтва на ваяўнічыя лагеры.

Трэба улічваць гэтаксама, што значная частка людзей яшчэ не здольныя разважаць палітычнымі катэгорыямі і прагназаваць наступствы нават уласных крокаў. Такія людзі заўсёды кіруюцца не розумам, а пачуцьцямі. Да прыкладу, пенсіянер, які галасаваў на мінулым рэфэрэндуме за вяртаньне савецкай сымболікі, меркаваў, што з чырвоным сьцягам вернецца і танная каўбаса (ён забыўся ўжо, што зрэдку яе бачыў, і яшчэ радзей — еў). Яму проста не прыходзіла ў галаву, што сам рэфэрэндум абышоўся ў мільёны даляраў, а зьмена «Пагоні» на лукашэнкаўскую «капусту» будзе каштаваць у шмат разоў болей. І што, у рэшце рэтаў, гэтыя грошы выцягнуць з кішэняў гэткіх жа жабракоў, як і ён. Не кажучы ўжо пра падзеньне міжнароднага прэстыжу Беларусі, а гэта азначае страту крэдытаў ды фінансавае дапамогі. Растлумачыць гэта пэнсіянеру не было каму — БНФ не мае доступу да тэлебачаньня і радыё, а прыватнымі гутаркамі мільёнам людзей не растлумачыш!.

Затое Лукашэнка штадня выступае па тэлебачаньню і навогул валодае неабмежаванымі магчымасьцямі ўплываць на масавую сьвядомасьць. Каб зразумець мэханізм ягоных паводзінаў, варта прааналізаваць, як успрымаецца на Беларусі адзін зь ягоных апошніх крокаў — забарона мітынгаў ды іншых масавых палітычных акцыяў у часе жніва.

Вясковы жыхар традыцыйна лічыць, што жыцьцё ў горадзе — прасьцейшае. З большага, гэтак і ёсьць — нават у выходныя дні селянін з ранку да ночы мусіць працаваць на гаспадарцы, а звычайна — яшчэ і ў калгасе, за мізэрныя грошы. Асабліва цяжка даводзіцца у часе сяўбы ды жніва, паколькі ўся тэхніка старая, часта ламаецца, ды і паліва заўсёды не хапае. І тут раптам прэзыдэнт паказвае пальцам: «глядзіце! Пакуль вы на полі ды гародзе сьпінаў не разьгібаеце, мінскія дармаеды — нацыяналісты мітынгуюць ды патрабуюць нейкай там дэмакратыі! Я разумею вашыя просьбы — вы хочаце новую тэхніку, патрабуеце паліва, нарэшце, хочаце падвышэньня заробку. Пацярпіце, падтрымайце свайго прэзыдэнта — і ўсё будзе. Але гэтым, у Мінску, яны ж на ўсім гатовым, вы ж іх корміце — ім што патрэбна? Белчырвона-белы сьцяг ды беларуская мова! Вам скаціну карміць няма чым, а яны — пра мову!».

І вясковец пачынае злаваць: «А сапраўды, ім там, у Мінску, рабіць няма чаго? Мову, сьцяг... Б'юць іх дубінкамі? мала б'юць, трэба яшчэ падсыпаць».

Калгасьнік не пажадае разьбірацца, што «бэнэфавец» у Менску змагаецца і за ягонае, селяніна, лепшае жыцьцё. Думаць — гэта занадта складана, куды прасьцей — знайсьці ворага. І прэзыдэнт дапамагае ў гэтым.

А глянем на тэлевізійныя трансьляцыі гэтак званых нарадаў з членамі ўраду, у часе якіх Лукашэнка выслухоўвае справаздачы міністраў ды крычыць на іх за тое, што простойваюць заводы, што людзі месяцамі сядзяць бяз працы і зарплаты. У якой іншай краіне гэта ацанілі б, як няздольнасьць стварыць эфэктыўны рынкавы механізм, як сьведчаньне эканамічнай агоніі. Але ў чалавека, які атрымаў савецкае выхаваньне, гэта выклікае зусім іншую рэакцыю: «Ну Шура, малайчына, наш чалавек, за просты народ — вунь як дае ў шыю гэтым міністрам!».

Вельмі паказальна, што сярод вынесеных на чарговы рэфэрэндум пытаньняў — аб мэтазгоднасьці адмены сьмяротнага пакараньня. Не буду цяпер аналізаваць маральныя ды праўныя аспэкты гэтай надзвычай складанай праблемы — але перакананы, што Лукашэнка выносіць яе на рэфэрэндум зусім не дзеля таго, каб адшукаць ісьціну. Вельмі сумнеўна, каб такую ісьціну можна было знайсьці шляхам усенароднага галасаваньня. І Лукашэнка гэта ведае. Але ведае ён і тое, што сацыялягічныя апытаньні сьведчаць; сёньня большасьць насельніцтва Беларусі — за тое, каб захаваць пакараньне сьмерцю. І якраз у гэтым палягае прычына вынасу гэтага пытаньня на рэфэрэндум. Тут мае месца даволі тонкі разьлік, мэта якога — прыцягнуць да галасаваньня як мага болей людзей. З гэткім жа посьпехам на галасаваньне можна вынесьці — «Ці асуджаеце вы супружніцкую здраду?». Тут кожны мае што сказаць, і кожны пажадае выказацца. І будуць людзі абмяркоўваць не тое, зь якой прычыны стаяць заводы і чаму прэзыдэнт не выканаў сваіх передвыбарчых абяцаньняў, а перамываць косьці сваім знаёмым і суседзям. Для уладаў — вельмі выгодна. Розьніца прапановы Лукашэнкі хіба ў тым, што тут ужо — пытаньне жыцьця і сьмерці, якое заўсёды выклікала ў чалавека не толькі асэнсаваны, але і падсьвядомы інтэрас. Між іншым, за два гады свайго прэзыдэнцтва Лукашэнка ніводнага разу не падпісаў памілваньне, усім пакідаючы прысуд суда — растрэл. Цяпер ён прапануе і іншым падцьвердзіць жаданьне сьмерці бліжняму (хай сабе і злачынцу) — пагадзіцеся, што не самае гуманнае жаданьне.

Яшчэ у часе выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі было заўважана, што Лукашэнка апэлюе да самых нізкіх пачуцьцяў, у тым ліку — да зайздрасьці і нянавісьці. «Мы готовы потерпеть, лишь бы другие не жировали» — казаў электарат дырэктара саўгасу, які значную частку сваёй кампаніі пабудаваў на выкрыцьці «ворагаў народу». Істэрычны і крыклівы паводле свайго характару, Лукашэнка сее ў грамадзтве ўзаемную нянавісьць і падазронасьць. Вядома ж, гульня на цёмных інстынктах не пройдзе безвынікова і самым горшым чынам паўплывае на маральны стан нацыі, але Лукашэнку гэта не турбуе. Ягоны галоўны клопат — як утрымаць уладу.

Акрамя таго, Лукашэнка актывізоўвае найменш адукаваную частку грамадзтва, даючы ёй магчымасьць істотна ўплываць як на выніку рэфэрэндумаў, так і парламенцкіх выбараў. Вядома, што найменшы працэнт людзей з сярэдняй ды вышэйшай адукацыяй жыве на вёсцы. Да таго ж, большая частка насельніцтва у правінцыі — людзі старэйшага веку, якім цяжка ўжо пазбавіцца камуністычных стэрэатыпаў. На такіх людзей і разьлічаныя шматлікія заявы Лукашэнкі, якія, хаця і выклікаюць у нармальных людзей сьмех ды зьдзіўленьне, — але, тым ня меньш, дасягаюць эфэкту. Вёска і гарадзкі люмпен — трывалая электаральная база Лукашэнкі; парадокс у тым, што з пагаршэньнем эканамічнага становішча люмпенізаваны пласт будзе павялічвацца.

Мяркую, што калі Лукашэнка правядзе свой рэфэрэндум — ён выйграе і на гэты раз. Дыктатары заўсёды выйграюць рэфэрэндумы, адваротных прыкладаў у гісторыі не было. Але тая ж гісторыя вучыць, што перамога падобнага кшталту можа быць толькі часовай — апора на цьмяныя інстынкты заўсёды скончвалася крахам. Гэтая аксіёма пачынае знаходзіць сваё падцьвярджэньне і ў цяперашняй Беларусі — і Лукашэнку, і ягоныя «тэорыі» катэгарычна адштурхвае моладзь, а менавіта за ёй — будучыня.

**Сяргей Навумчык**

## «РЭФЭРЭНДУМУ ЛУКІ ВЕРАЦЬ ТОЛЬКІ ДУРАКІ»

— такі лозунг узьнялі актывісты БНФ пад час пікетаваньня ў Гомлі. Пікет быў прысьвечаны абароне парлямэнтарызму на Беларусі і сабраў вакол сябе шмат людзей, якія дыскутавалі з нагоды будучага рэфэрэндуму.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЗАЯВА
## АБ РЭЖЫМЕ НА БЕЛАРУСІ

25 ліпеня 1996 г. у Маскве старшыня думскага камітэту па бясьпецы, камуніст В. Ілюхін выступіў з правакацыйнай заявай аб тым, што нібыта ў Варшаве прадстаўнікамі ЦРУ рыхтуецца «апэрацыя» з мэтай скінуць прэзідэнта А. Лукашэнку.

На Беларусі зараз у выніку разбуральнай дзейнасьці прэзыдэнта ў палітыцы, эканіміцы і культуры ўзьнік глыбокі сыстэмны крызіс. Рэальнае беспрацоўе перакрочыла 20 працэнтаў. Стаяць заводы, большасьць прадпрыемстваў працуюць не на поўную магутнасьць. Не некалькі месяцаў затрымана зарплата. Рэзка павялічваюцца цэны, паралізаваны фінансавыя адносіны, імкліва падае жыцьцёвы ўзровень насельніцтва. Вынікам такога становішча можа стаць сацыяльны выбух, страйкі і дэманстрацыі, патрабаваньне імпічмэнту прэзыдэнта. Менавіта пра гэта і гавораць Беларускі Народны Фронт і ўсе дэмакратычныя апазыцыйныя арганізацыі на Беларусі.

А. Лукашэнка і камуністычныя сілы ў Расеі, якія яго падтрымліваюць, адчуваюць гэтую пагрозу пракамуністычнаму рэжыму на Беларусі і стараюцца распачаць прэвэнтыўныя дзеяньні, аб'явіўшы, што дэманстрацыі, страйкі і імпічмент, якія чакаюцца, рыхтуюць агенты ЦРУ у Варшаве, і заклікаюць А. Лукашэнку прыняць у сувязі з гэтым «прафілактычныя меры».

Гэта стары прымітыўны прыём КДБ, калі зьяву, якая чакаецца і якую немагчыма прадухіліць, аб'яўляюць падрыўной акцыяй ЦРУ. І тады, калі яна з прычыны натуральных працэсаў надыходзіць, рэжым пачынае ўжываць сілу, апраўдваючы насільле быццам бы барацьбой з ЦРУ, ворагамі народу і г.д. У выніку такой міфатворчасьці камуністамі і органамі НКВД у былым Савецкім Саюзе былі замардаваны мільёны людзей. Цяпер мы зноў бачым гэты рэліктавы сцэнар і заклікі ўжыць «прафілактычныя меры».

У правакацыйный заяве расейскага камуніста мы вымушаны зьвярнуць увагу на сцьвярджэньні, што «апэрацыя» рыхтуецца ў Варшаве і што прадбачыцца «ліквідацыя аднаго, альбо двух кіраўнікоў беларускай апазіцыі», каб потым віну за забойства ўскласьці на Лукашэнку.

Мы лічым, што гэтыя словы В. Ілюхіна пацьвярджаюць схільнасьць А. Лукашэнкі да плянаваньня дзяржаўнага тэрарызму. Я, старшыня апазіцыйнага Беларускага Народнага Фронту, і прэс-сакратар БНФ, прадстаўнік Беларускага Хельсінскага Камітэту за мяжой Сяргей Навумчык вымушаны былі пакінуць Беларусь, ратуючыся ад палітычнага перасьледу з боку рэжыму, пагрозы нашаму жыцьцю і свабодзе. Мы затрымаліся на два месяцы ў Варшаве, пачалі выпускаць там інфармацыйны бюлетэнь аб Беларусі, правялі шэраг прэс-канферэнцыяў і сустрэчаў з палітыкамі і афіцыйнымі асобамі. Наша законная дзейнасьць у Польшчы і іншых эўрапейскіх краінах выклікала выключную нянавісьць рэжыму. Зьявілася афіцыйная заява Міністэрства замежных справаў ураду Лукашэнкі, дзе было сказана, што «асаблівую заклапочанасьць беларускага боку выклікаюць кантакты зь лідарам БНФ афіцыйных асобаў некоторых дзяржаў, што можа быць расцэнена як ускосная падтрымка сілаў апазіцыі».

«У сувязі з гэтым Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь упаўнаважана заявіць, што такія дзеяньні афіцыйных колаў іншых дзяржаваў могуць нанесьці ўрон дружалюбным двубаковым адносінам».

Потым зьявілася распараджэньне памежным службам Рэспублікі Беларусь Пазьняка і Навумчыка «пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць», Лукашэнка аб'явіў нас «ворагамі народа» і аддаў тайны загад сьпецслужбам нас «нейтралізаваць». Цяпер вырашаецца пытаньне аб прызначэньні ў Варшаву спэцыяльнага рэзыдэнта Лукашэнкі, прадстаўніка Міністэрства ўнутраных справаў, які павінен адсочваць нашу дзейнасьць і нашае месцазнаходжаньне.

Наступны этап у гэтай шызафрэнічнай рабоце — правакацыйныя выказваньні В. Ілюхіна ў Маскве. Так што Варшаву яны выбралі не выпадкова.

Адкрытае цынічнае абмеркаваньне пытаньня аб нашым забойстве павінна шакіраваць міжнародную грамадзкасьць. Выказваньні Ілюхіна пацьвярджаюць, што Лукашэнка рыхтуе забойства. Гэты факт глыбока абурае нас. Мы бачым тут праявы міжнароднага тэрарызму на дзяржаўнай аснове. У прававой краіне пракуратура павінна была б узбудзіць крымінальную справу па выказваньнях Ілюхіна і дзеяньнях Лукашэнкі.

Мы мяркуем, што сумеснымі намаганьнямі лукашэнкаўскага рэжыму на Беларусі і камуністаў у Расеі рыхтуецца прэвэнтыўная распарава над беларускім нацыянальна-вызвольным рухам і дэмакрытыяй. Канчатковая перамога камуністычнай рэакцыі і антрыпраўнага рэжыму на Беларусі зробіць вельмі кепскі ўплыў на вольную Польшчу і вольную Украіну, на Балтыйскія дзяржавы, стымулюе рэанімацыю камуністычнай улады на Усходняй Эўропе, парушыць баланс і без таго хісткай стабільнасьці ў гэтым месцы.

Мы лічым, што ўсе здаровыя сілы ў беларускім грамадзтве павінны паставіцца вельмі сур'ёзна да будучыні сваёй краіны, абараніць правы чалавека, абараніць нацыянальную годнасьць, беларускую мову і культуру, сувэрэнітэт і дабрабыт краіны і не дапусьціць рэалізацыі авантурных плянаў пракамуністычнага рэжыму на Беларусі.

*лета 1996 г., г. Вашынгтон*

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

**СЯРГЕЙ НАВУМЧЫК**
**прэс-сакратар БНФ, прадстаўнік Беларускага Гэльсінскага Камітэту за мяжой**

# БНФ ВЫКАЗВАЕ ПАДТРЫМКУ

Калі стала ведама, што З. Пазьняк і С. Навумчык папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША, Прэзыдэнт Лукашэнка літаральна ў кожнай сваёй прамове абураўся крокам лідараў БНФ. Пасьля ж станоўчага рашэньня амэрыканскіх уладаў Лукашэнка адмовіўся ад каментароў палічыў «ніжэй за сваю годнасьць» камэнтаваць такую падзею, пра што і заявіў 26 жніўня на сустрэчы з чыноўнікамі ў Слуцку. Пры гэтым, паводле агенцтва БЕЛТА, Лукашэнка адзначыў, што «гэты інцыдэнт з'явіўся вынікам даўно сплянаванай акцыі». Аляксандар Лукашэнка падкрэсьліў, што кіраўніцтва Беларусі ведала аб рыхтаваных дзеяньнях у адносінах да Беларусі яшчэ за два месяцы да таго, як аб гэтым папярэдзілі асобныя палітычныя дзеячы ў Расіі і ў іншых дзяржавах. Пры гэтым ён адзначыў, што правядзеньне рэферэндуму ў краіне неабходна, каб «народ паказаў: мы адзіныя, мы маем намер рабіць свой лёс самі, уласнымі рукамі». Што ж тычыцца дзейнасьці беларускай апазыцыі, то, паводле словаў прэзыдэнта, «галоўным для іх з'яўляюцца не клопаты аб шчасьці народа, а палітычная амбіцыі і ўласны дабрабыт».

«Такі акт амэрыканскіх уладаў мы не можам разглядаць як дружалюбны, — заявіў першы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі Валер Цапкала. — Мяркуем, што Злучаным Штатам варта было больш увагі засяродзіць на тых краінах, дзе сапраўды парушаюцца правы чалавека».

«На Беларусі безумоўна захоўваюцца правы чалавека», — пераконвае сусьветную грамадзкасьць намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі палкоўнік Замяталін.

Яшчэ адзін намесьнік міністра замежных справаў, былы сакратар ЦК камуністычнай партыі Іван Антановіч зазначыў, што пра крок лідараў БНФ паведаміла толькі другарадная правінцыйная прэса, ідавочна, ставячы у іх шэраг, ды прыкладу "New York Times" і "Financial Times".

Іншую рэакцыю рашэньне уладаў ЗША выклікала ў Беларускім Народным Фронце.

— Па сутнасьці, ЗША прызналі, што на Беларусі парушаюцца правы чалавека. Гэта не проста рашэньне аб палітычным прыстанішчы, бо ЗША будуць рабіць і далейшыя захады, — зазначыў старшыня Палітычнай камісіі БНФ Валянцін Асташынскі.

— Упершыню беларускую дэмакратыю так яскрава падтрымала заходняя дэмакратыя, — зазначыў сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.

— Беларусь цяпер стала ў адзін шэраг з Лівіяй ды Іракам. Іншай краіны, дзе адзначаныя палітэмігранты, у Эўропе няма.

— Я лічу гэты крок Зянона Пазьняка вельмі моцным у палітычным пляне, гэтым ён прыцягнуў увагу ўсяго сьвету, у якім стане цяпер правы чалавека на Беларусі. Палітэмігранты не паходзяць з тых краін, дзе захоўваюцца правы чалавека, — падкрэсьліў выконваючы абавязкі Старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі.

Кіраўнікі БНФ пацьвердзілі, што Зянон Пазьняк па-ранейшаму з'яўляецца Старшынём Народнага Фронту, і што зь ім падтрымліваецца рэгулярная сувязь.

## НАСТУП НА ВОЛЬНУЮ ПРЭСУ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

У Менску спынена вяшчаньне радыёстанцыі 101,2, якая працавала на ультракароткіх хвалях, і з'яўлялася адзінай беларускамоўнай недзяржаўнай радыёстанцыяй. Журналісты бачаць у гэтым імкненьні ўраду цалкам пазбавіць насельніцтва аб'ектыўнай інфармацыі пад час рэфэрэндуму. Прыкмента, што загад аб забароне вяшчаньня з'явіўся якраз у той дзень, калі быў апублікаваны праект лукашэнкаўскай Канстытуцыі. А праз некалькі дзён былі арыштаваныя фінансавыя рахункі газэтаў «Свабода», «Беларуская дзелавая газета», «Свабодныя навіны плюс» ды «Беларускі рынак», якія належаць прыватным уладальнікам і выступалі з рэзкай крытыкай Лукашэнкі.

## КАНЦЭПЦЫЯ, ЯКАЯ КАШТУЕ ЖЫЦЬЦЯЎ

Гад тому, імкнучыся кампэнсаваць прэзыдэнт Лукашэнка загадаў распрацаваць новую канцэпцыю пражываньня на радыяцыйнай тэрыторыі з «улікам эканамічнага становішча». Сёньня гэтая канцэпцыя створаная. У выніку 252 паселішчы прызнаныя бясьпечнымі для жыцьця, больш за сто тысячаў дзяцей выведзеныя з-пад дзеяньня Закону аб з сацыяльнай абароне чарнобыльскіх ахвяраў. Магчыма, у гэты спосаб Лукашэнка спадзяецца адшукаць грошы для свайго рэфэрэндуму.

# КАНСТЫТУЦЫЯ ДЫКТАТУРЫ

***Камэнтар да праэкту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прапанаванае прэзыдэнтам Лукашэнкам на рэфэрэндум***

### ПАТАЛЁГІЯ ХВАРАВІТЫХ ПАМКНЕНЬНЯЎ

Знаёмства з праэктам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, пасьпешліва падрыхтаванай ананімнай групай у адміністрацыі прэзыдэнта Лукашэнкі і вынесенай, у парушэньне дзеючай Канстытуцыі, на рэфэрэндум, дазваляе зрабіць наступныя высновы.

Зьмест гэтага праэкту Канстытуцыі цяжка надаецца па разьдзелах і тэмах, зыходзячы з прынцыпу падзелу ўладаў, паколькі увесь ягоны тэкст прасякнуты адзінай мэтай — прававога забеспячэньня адзінаасобнай, абсалютнай і ўсеаб'емнай улады прэзыдэнта. Гэтаму падпарадкаваны сэнс усіх разьдзелаў прававых палажэньняў і дзіўная логіка праэкту, месцамі падобнага на заблытаную тэхнічную інструкцыю.

Мы лічым, аднак, што гэты дакумент уяўляе пэўную цікавасьць для аналізу анатоміі аўтарытарнай улады і тыповага яе разуменьня ў шмат якіх краінах постсавецкага блёку, якія выкарыстоўваюць прэзыдэнцкую форму праўленьня. Гэты праэкт можа з'яўляцца матэрыялам для вывучэньняў і абагульненьняў. Але калі ён будзе «працягнуты» праз рэфэрэндум і атрымае вагу асноўнага закона, грамадзству, у якім гэта здарыцца, гарантаваныя незьлічоныя беды, паколькі яно само заканадаўча зацьвярджае дыктатуру і поўную залежнасьць ад волі аднае асобы.

Нам не даводзілася ніколі чытаць нешта падобнае. Мы схільныя бачыць тут паталёгію хваравітых памкненьняў да непадзельнага ўладараньня над грамадзтвам і людзьмі, да кіраваньня ўсімі і ўсім асобай, якая не мае на гэта ніякіх апраўдальных альбо нават фармальных падставаў (адукацыі, выхаваньня, культуры, заслуг перад грамадзствам, альбо хоць бы здаровага глузду).

Тым ня менш, праэкт дыктатарскай канстытуцыі прапанаваны грамадзству праз манаполію ўлады, манаполію ўладарнай прапаганды, манаполію на радыё, тэлебачаньне ды іншыя сродкі масавай інфармацыі.

### ЯШЧЭ НЕ БОГ, АЛЕ ЎЖО І НЕ ПАПА РЫМСКІ

Галоўнай тэмай праэкту зьяўляецца «прэзыдэнт», ягоныя правы, дзеяньні, узаемадачыненьні. Усё гэта ў асноўным выкладзена ў разьдзеле 4 і замацавана ў разьдзеле 8, дзе сказана, што разьдзел 4 (і натуральна ж, разьдзел 8) «не могуць быць перагледжаныя парламентам».

Артыкул 79, главы 3 аб прэзыдэнце настолькі красамоўна вызначае, што такое ёсьць «-прэзыдэнт» Рэспублікі Беларусь, што лічым неабходным працытаваць яго цалкам:

«Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь зьяўляецца кіраўніком дзяржавы (так і напісана, зь вялікай літары — З.П., С.Н.), гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў й свабодаў чалавека і грамадзяніна. Прэзыдэнт увасабляе адзінства народу, гарантуе рэалізацыю асноўных напрамкаў унутранай і зьнешняй палітыкі, прадстаўляе Рэспубліку Беларусь ва ўзаемаадносінах зь іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. Прэзыдэнт прымае меры па ахове дзяржаўнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыяльнай бясьпекі і тэрытарыяльнае цэласнасьці, забясьпечвае палітычную і эканамічную стабільнасьць, пераемнасьць і ўзаемадзеяньне органаў дзяржаўнае ўлады, ажыцьцяўляе пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады, дзяржавай і грамадзтвам. Прэзыдэнт валодае недатыкальнасьцю, ягоныя гонар і годнасьць ахоўваюцца законам».

У дзеючай Канстытуцыі Беларусі адпаведны артыкул (95-ы) гучыць наступным чынам: «Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь зьяўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады».

Пашырэньне гэтага артыкулу ў лукашэнкаўскім праэкце, наданьне прэзыдэнту ўсіх верагодных і неверагодных правоў не прадугледжвае, аднак, аніякіх абавязкаў прэзыдэнта перад грамадзтвам і законам. Да прыкладу, адзначаецца, што прэзыдэнт з'яўляецца «гарантам Канстытуцыі» і адначасна з праэкту вынікае, што прэзыдэнт не нясе ніякай адказнасьці перад Канстытуцыяй. Палажэньне дзеючай Канстытуцыі (артыкул 104) пра тое, што прэзыдэнт можа быць адхілены ад пасады ў выпадку парушэньня ім Канстытуцыі, у лукашэнкаўскім праэкце — адсутнічае. Адказнасьць за парушэньне законаў і Канстытуцыі ўскладаецца (адпаведна праэкту) на іншыя дзяржаўныя органы і на парлямент, дзейнасьць якіх у выпадку сыстэматычнага альбо грубага (?) парушэньня Канстытуцыі спыняецца рашэньнем прэзыдэнта (артыкул 94). Сам жэ прэзыдэнт выведзены з-пад адказнасьці за парушэньне правоў чалавека, законаў і Канстытуцыі. У праэкце не закладзеныя нават ускосныя механізмы ўзьдзеяньня на прэзыдэнта ў выпадку парушэньня закону зь яго боку, не кажучы ўжо пра адсутнасьць палажэньняў аб адказнасьці і абавязках. У адпаведнасьці з сэнсам праэкту, прэзыдэнт вышэй за Канстытуцыю. Ён на ёй клянецца і зьяўляецца яе «гарантам», «гарантуе рэалізацыю», «прадстаўляе», «прымае», «забясьпечвае», «ажыцьцяўляе» і гэтак далей, і нават «увасабляе» «адзінства народа». Сэнс апошняга палітыка-юрыдычнага паняцьця там, дзе яно ўжывалася, расшыфроўвалася звычайна як «адзін народ — адзін фюрэр», які «валодае недатыкальнасьцю» і «ажыцьцяўляе» (заўважце) «пасрэдніцтва паміж ворганамі дзяржаўнае ўлады, дзяржавай і грамадзтвам». Яшчэ не Бог, але ўжо і не прэзыдэнт, і нават ужо не Папа Рымскі, а нешта значна большае.

### «АРЫФМЭТЫКА» ЎЛАДЫ

Артыкул 88 праэкту вызначае, што прэзыдэнт «можа быць датэрмінова адхілены ад пасады» «пры стойкай няздольнасьці па стану здароў'я выконваць свае абавязкі» і «за дзяржаўную здраду і іншае цяжкае злачынства». Аднак са зьместу вынікае, што нават у гэтым выпадку адстаўка прэзыдэнта не магчымая без ягонай згоды.

Для адхіленьня прэзыдэнта (артыкул 88) патрэбна 2/3 галасоў палаты прадстаўнікоў (дэпутаты якой, паміж іншым, могуць быць сябрамі прэзыдэнцкага ўраду, прызначацца на іншыя пасады прэзыдэнтам) і 3/4 галасоў Сэнату, 1/3 дэпутатаў якога прызначаецца асабіста прэзыдэнтам. Арыфмэтыка зразумелая. Адхіліць прэзыдэнта ў Сэнаце немагчыма. Якая палітыка за гэтым крыецца, мы гэтаксама добра ведаем. Мала таго — калі абедзьве палаты не пасьпеюць разглядзець пытаньне і прыняць па ім рашэньне на працягу месяца з моманту выстаўленьня абвінавачваньня, — гэта азначае скасаваньне абвінавачваньня. Праэкт дае прэзыдэнту шмат магчымасьцяў прадухіліць ініцыяваньне сваёй адстаўкі альбо зацягнуць прыняцьціё рашэньня на тэрмін больш чым на месяц.

Гэты праэкт Канстытуцыі створаны па патрабаваньню А. Лукашэнкі, пад канкрэтную асобу — Лукашэнку, і пад сытуацыю, якая сёньня існуе ў краіне. Прадугледжаныя ня толькі ўсе правы і выключныя паўнамоцтвы для прэзыдэнта, ня толькі вывад яго з-пад закону, ня толькі практычная немагчымасьць адхіленьня яго ад пасады, але нават недапушчаньне да верагоднага ўдзелу ў выбарах сваіх палітычных апанэнтаў. У артыкуле 80 гаворыцца, што прэзыдэнтам можа быць абраны грамадзянін Беларусі, які пражыў у Рэспубліцы Беларусь не менш дзесяці гадоў «непасрэдна перад выбарамі». Гэта азначае, што грамадзянам, якія перад выбарамі на доўгі тэрмін ад'язджалі за мяжу, альбо, яшчэ горш, у эміграцыю, удзельнічаць ў прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата забаронена.

У артыкуле 84 праэкту пералічаныя 28 пунктаў галоўных функцыяў прэзыдэнта. Лягчэй было б проста працытаваць гэты аб'ёмісты артыкул, каб усё было зразумела. Калі ж коратка, то прэзыдэнт у сыстэме дзяржаўнае ўлады можа вызначаць усё. Ён робіць усе кадравыя прызначэньні ва ўрадзе і ўсе вызваленьні з пасадаў, «прызначае кіраўнікаў органаў дзяржаўнага кіраваньня і вызначае іх статус, прызначае прадстаўнікоў прэзыдэнта ў парлямэнце і іншых службовых асобаў», прызначае і вызваляе Гэнэральнага пракурора, Старшыню і сябраў Праўленьня Нацыянальнага банку, Старшыню і сябраў Вярхоўнага Суду, Старшыню Камітэту дзяржаўнага кантролю, дзяржаўнага сакратара Савету бясьпекі, старшыню і пяць сябраў Канстытуцыйнага Суду (гэта значыць палову), шасьці сябраў (палову) Цэнтральнае выбарчае камісіі і гэтак далей. Дарэчы, астатніх сябраў Канстытуцыйнага Суду і Цэнтрвыбаркаму абірае Сэнат, які на 1/3 фармуецца прэзыдэнтам. Зразумела, што сябры Канстытуцыйнага Суду і Цэнтрвыбаркаму будуць, у сваёй большасьці, гэтаксама залежныя ад прэзыдэнта.

Тое, што некаторыя прэзыдэнцкія кадравыя прызначэньні павінныя прайсьці праз Сэнат, сутнасьці не мяняе, бо, як ужо казалася, Сэнат заўсёды будзе ў той ці іншай ступені залежны ад прэзыдэнта.

Калі ж палата прадстаўнікоў двойчы не зацьвердзіць прапанавую прэзыдэнтам кандыдатуру прэм'ер-міністра, пытаньне вырашаецца па-камісарску проста: парлямэнт (абедзве палаты, артыкулы 106, 93 і 94) — распускаецца прэзыдэнтам.

### ПАРЛЯМЭНТ ЗАМЕСТ АНУЧЫ

З праэкту вынікае поўная (падкрэсьліваем) залежнасьць парлямэнту ад прэзыдэнта. Адсутнічаюць уладная, фактычна заканадаўчая, і нават у нейкай ступені працэдурная самастойнасьць парлямэнту. Фактычна прэзыдэнт мае права распусьціць парлямэнт у любы час.

Асабліва абсурдна гучыць артыкул 94, дзе сказана, што «паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрмінова спыненыя пры адмаўленьні ў даверы ўраду, альбо пры двухразовай нязгодзе на прызначэньне прэм'ер-міністра». Вось і паспрабуй цяпер парлямэнт выказаць недавер ураду з прычыны, да прыкладу, нявыкананьня бюджэту. Альбо — не зацьвердзі прэмьера, калі той злодзей, альбо, у лепшым выпадку, дурань. Апынешся ў адстаўцы ўсім складам, з усімі «паўнамоцтвамі» ў поўнай адпаведнасьці з Канстытуцыяй.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Далей — болей. Прэзыдэнт можа зрабіць мудрагеліста. Артыкул 106 праэкту гаворыць: «прэмьер-міністр можа паставіць перад Палатай прадстаўніклў пытаньне пра давер Ураду па прадстаўленай праграме альбо па канкрэтнай прычыне. Калі парлямэнт у даверы адмаўляе, Прэзыдэнт можа ў дзесяцідзённы тэрмін прыняць рашэньне пра адстаўку парлямэнту альбо роспуск палатаў».

Ну, як вам? Звычайна такія месцы перачытваеш двойчы, каб пераканацца, ці сапраўды так напісана. Але напісана менавіта гэтак. Зразумела, што парлямэнт па такой Канстытуцыі згодзіцца з усім і зацьвердзіць усё, што патрэбна прэзыдэнту альбо ягонаму ўраду.

Прэзыдэнт і ягоны ўрад пры жаданьні могуць выціраць аб парлямэнт ногі. У адпаведнасьці з артыкулам 100, калі патрэбны прэзыдэнту законапраэкт не праходзіць у абодвух палатах, тады «Прэзыдэнт альбо па ягоным даручэньні Урад могуць патрабаваць, каб Палата прадстаўнікоў прыняла канчатковае рашэньне». Прычым, каб прагаласавала не меньш 3/5 дэпутатаў ад поўнага складу. Вось тут, спадары дэпутаты, паспрабуйце не прагаласаваць, калі ў Канстытуцыі запісана — «прыняць канчатковае рашэньне», і што «прэзыдэнт можа патрабаваць». Парлямэнцкага крызісу не будзе. Непрыняцьцё канчатковага рашэньня «будзе кваліфікавацца як грубае альбо сыстэматычнае парушэньне Канстытуцыі, і парламент распусьцяць.

Далей — яшчэ болей (хаця куды ўжо болей). Артыкул 99 канстатуе: «прэзыдэнт, альбо па ягоным даручэньні Урад, маюць права ўносіць прапановы ў Палату прадстаўнікоў і Сэнат аб абвяшчэньні закона тэрміновым. Палата прадстаўнікоў і Сэнат у гэтым выпадку абавязаныя разглезіць гэты праэкт на працягу дзесяці дзён з дня ўнясеньня на іх разгляд... Па патрабаваньню Прэзыдэнта, або зь ягонай згоды, Урад, Палата прадстаўнікоў, Сэнат на сваіх пасяджэньнях прымаюць рашэньні галасуючы ў цэлым за ўвесь унесены Урадам праэкт, альбо ягоную частку, захаваўшы толькі тыя папраўкі, якія прапанаваныя альбо прынятыя Прэзыдэнтам ці Урадам».

Усё гэтае юрыдычна-працэдурнае дзікунства (калі з дапамогай канстытуцыйнай нормы парлямэнт прымушаюць галасаваць «у цэлым» за чужы законапраэкт, і толькі «за»), мае простае тлумачэньне. Лукашэнка жадае сам тварыць законы. Ён не можа згадзіцца, што нават такі прапанаваны ім і цалкам ад яго залежны квазіпарлямэнт можа выдаваць вышэйшыя дзяржаўныя акты — законы, а ён, больш чым правадыр, больш чым старшыня калгасу, — можа пісаць толькі ўказы, якія ніжэйшыя за законы. Вось і зрабілі памочнікі артыкул у Канстытуцыю. Як маглі, так і зрабілі.

Але гэтага мала. У артыкуле 101 праэкту вызначана, што «па прапанове Прэзыдэнта» парлямэнт можа яму «дэлегаваць заканадаўчыя паўнамоцтвы на выданьне дэкрэтаў, якія будуць мець сілу закона». На падставе лукашэнкаўскай Канстытуцыі можна не сумнявацца, што такое «дэлегаваньне» будзе яму забясьпечана. І Лукашэнка, відавочна, не сумняваецца — але страхуецца. У тым жа артыкуле напісана наступнае: «У мэтах асаблівай неабходнасьці і тэрміновасьці прэзыдэнт па сваёй ініцыятыве альбо па прапанове Ураду можа выдаваць часовыя дэкрэты, якія будуць мець сілу закона». Як бачым — не патрэбна і «дэлегаваньне». Тэрміны «часовасьці» пры гэтым не вызначаныя.

«Парлямэнт», калі патрэбна, дык зацьвердзіць. А магчыма, гэта нават і не спатрэбіцца, тым болей што ніжэй запісана: «гэтыя дэкрэты захоўваюць сілу, калі яны не скасаваныя парламентам».

*(Працяг на б. 4)*

Здавалася б, вось прэзыдэнт ужо выдае законы, вось і заканадаўчая функцыя квазіпарлямэнту абмежавана да мінімуму. Чаго яшчэ болей? Аказваецца — можна і болей. Лукашэнка павінен вызначаць усё. У разьдзеле 8 (які, падкрэсліваем, не можа быць перагледжаны парлямэнтам), зьяўляецца сваеасаблівы юрыдычны шэдэўр у шулерскай формулёўцы, якую варта працытаваць: «У выпадку разыходжаньня дэкрэта альбо ўказа з законам, закон мае вяршэнства толькі тады, калі паўнамоцтвы на выданьне дэкрэта альбо ўказа былі прадстаўленыя законам».

Па аб'ёму цынізму і грубога ўзурпатарства гэтае палажэньне не саступае палажэньням пра роспуск парлямэнту. На практыцы ж гэта азначае, што прэзыдэнт можа выдаваць любыя дэкрэты альбо ўказы, не клапоцячыся пра адпаведнасьць іх законам, бо ў гэтым выпадку (у выпадку іх супярэчлівасьці) яны вышэйшыя за закон. Калі прэзыдэнту не падабаецца якое-небудзь палажэньне ў законе, ён можа выдаць указ. Будзе дзейнічаць норма ўказу.

Зьнявага парлямэнту выяўляецца нават у працэдуры ягоных ўзаемадачыненьняў з прэзыдэнтам і ўрадам. Парлямэнту ўказана (артыкул 97), якія законы ён можа прымаць. Тое, што яму не дазваляецца, тое і не ўказана. Ягоны лёс — выкананьне волі прэзыдэнта і ўраду. Да прыкладу, прэзыдэнт зьвяртаецца з пасланьнямі да народу і парлямэнту, якія «заслухоўваюцца без абмеркаваньня» (артыкул 84). На сесіі парлямэнту «Прэзыдэнт, яго прадстаўнікі, прэм'ер-міністр і члены ўраду, — сказана далей (артыкул 103) — могуць выступаць па-за чаргой тых, хто запісаўся, столькі разоў, колькі запатрабуюць» («тыя, хто запісаўся» — гэта дэпутаты парлямэнту).

Калі заканадаўчыя функцыі парлямэнту ў праэкце моцна абмежаваныя, то кантрольная функцыя за выкананьнем законаў і бюджэту зусім ліквідавана. У адрозьненьне ад цяперашняй Канстытуцыі, у праэкце адсутнічае глава пра Кантрольную палату парлямэнту. Прэзыдэнт стварае «Камітэт дзяржаўнага кантролю» (артыкулы 129 – 131), прызначае яго Старшыню і праз яго сам сябе кантралюе (выкарыстаньне бюджэту, фінансавая і падатковая дзейнасьць, і гэтак далей).

Ёсьць, аднак, яшчэ адна істотная прычына з'яўленьня ў праэкце гэтых цемрашальскіх, антыпраўных, антыдэмакратычных палажэньняў. Гэта — імкненьне Лукашэнкі пазьбегнуць юрыдычнай адказнасьці за шматлікія парушэньні дзеючай Канстытуцыі і выданьне антыканстытуцыйных указаў. Таму і адсутнічае ў праэкце палажэньне аб адказнасьці прэзыдэнта за парушэньне Канстытуцыі, а ўказы ў выпадку іх разыходжаньня з законам загадваецца лічыць вышэйшымі за закон. Прыняцьцём новай Канстытуцыі на рэфэрэндуме Лукашэнка гэтаксама спадзяецца запазьбегнуць немінучага суду за свае учынкі (паколькі Канстытуцыя 1994 году тады спыняе дзейнасьць).

### СУД НЕ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНЫМ

Сытуацыю, у якой, пры выпадку прыняцьця гэтага праэкту, апынецца Канстытуцыйны Суд, варта разгледзець больш падрабязна.

Істотным адрозьненьнем гэтага праэкту з'яўляецца тое, што, у адпаведнасьці зь ім, рашэньні Канстытуцыйнага Суду ўжо не будуць мець абавязковай сілы і не будуць з'яўляцца канчатковымі. Канстытуцыя 1994 году прадугледжвае, што з маманту вынясеньня рашэньня аб неадпаведнасьці Канстытуцыі нарматыўныя акты цалкам альбо часткова трацяць юрыдычную моц. Гэта тычыцца і нарматыўна-праўных актаў міждзяржаўнага аб'яднаньня, у які ўваходзіць Беларусь, а таксама міжнародных дамоваў. Прыкметна, што повадам для выбуху грамадзка-палітычнай актыўнасьці на Беларусі вясной-летам сёлятняга году зьявілася менавіта падпісанае Лукашэнкам і Ельцыным 2 красавіка беларуска-расейскае пагадненьне, якое пагражае ліквідацыяй сувэрэнітэту Беларусі. У больш шырокім сэнсе, адсутнасьць у праэкце прынцыпу абавязковасьці рашэньня ліквідуе прынцып вяршэнства Канстытуцыйнага Суду як вышэйшага арбітра у пытаньнях канстытуцыйнай законнасьці.

Цяпер усе сябры Канстытуцыйнага Суду, як і ягоны Старшыня, абіраюцца Вярхоўным Саветам. У сукупнасьці з 11-гадовым тэрмінам паўнамоцтваў судзьдзяў гэта дае істотныя гарантыі незалежнасьці Суду ад выканаўчае ўлады. Праэкт жа прадугледжвае прызначэньне паловы судзьдзяў (у тым ліку і Старшыні) непасрэдна прэзыдэнтам. Калі ўлічыць, што астатняя палова судзьдзяў абіраецца не Палатай прадстаўнікоў, а ў значнай ступені падкантрольным прэзыдэнту Сэнатам, то зусім відавочна — прэзыдэнт аўтаматычна атрымоўвае магчымасьць заблякаваць практычна любое рашэньне Суду. Хоць праэкт і вызначае тэрмін паўнамоцтваў судзьдзяў — 11 гадоў, — але не гаварыцца пра тое, што прэзыдэнт не мае права адклікаць прызначаных ім судзьдзяў да сканчэньня гэтага тэрміну.

Сумнеўна выглядае і прынцып абавязковай наяўнасьці вучонай ступені для кандыдатаў на пасаду сябры Суду. У камуністычныя часы крытэрыем для наданьня вучоных ступеняў, у тым ліку і ў юрыспрудэнцыі, даволі часта зьяўляліся не навуковыя дасягненьні, а ляяльнасьць да ўладаў. Варта зазначыць, што цяпер камісія па надаваньню вучоных ступеняў знаходзіцца ў сыстэме выканаўчае ўлады, гэта значыць — падкантрольная прэзыдэнту.

Праэкт прадугледжвае абавязак Суду на прапанову прэзыдэнта даваць заключэньні аб наяўнасьці фактаў сыстэматычнага і грубога парушэньня Канстытуцыі палатамі парлямэнту, што ў далейшым можа быць падставай для роспуску парлямэнту. Цяперашняя Канстытуцыя дае Суду права выносіць заключэньні пра парушэньне Канстытуцыі з боку прэзыдэнта, што зьяўляецца ключавым момантам у працэдуры імпічмэнту. Гэтага права Канстытуцыйны Суд пазбаўляецца. Паказальна, што на сёньняшні дзень шаснаццаць указаў альбо распараджэньняў Лукашэнкі прызнаныя Канстытуцыйным Судом цалкам альбо часткова не згоднымі з Канстытуцыяй.Згодна праэкту, цяпер ужо ніхто не здолее вынесьці паўнапраўны вэрдыкт аб канстытуцыйнасьці якіх бы там не было рашэньняў прэзыдэнта. Зрэшты, як ужо казалася, праэкт і не прадугледжвае адстаўкі прэзыдэнта з прычыны грубога і сыстэматычнага парушэньня Канстытуцыі.

У адрозьненьне ад цяперашняй Канстытуцыі, праэкт значна аслабляе незалежнасьць як Канстытуцыйнага Суду ў цэлым, так і судзьдзяў па-асобку.

Напрыклад, адсутнічае палажэньне, якое забараняе судзьдзям займаць тыя альбо іншыя штатныя пасады ў дзяржаўным апараце. У артыкуле 111 сказана толькі пра тое, што судзьдзі не могуць выконваць «іншую аплочваемую працу». Аднак здараецца, што тыя альбо іншыя асобы займаюць пасады і без грашовага ўзнагароджаньня. Скажам, нішто не перашкодзіць адным альбо нават некалькім сябрам Суду заняць пасаду «неаплочваемага» дарадцы прэзыдэнта.

У параўнаньні з Канстытуцыяй 1994 году, ліквідаваныя наступныя правы членаў Канстытуцыйнага Суду:

— імунітэт судзьдзяў, які цяпер роўны імунітэту дэпутатаў парляменту і забараняе арышт, абшукваньне, пераглед асабістых рэчаў.

— права судзьдзяў у любы момант падаць ў адстаўку.

— гарантыя ад узьдзеяньня на судзьдзяў з боку каго б там ні было.

Апошняе палажэньне (забарона ўзьдзяньня на Суд і судзьдзяў) мае прынцыповую значасьць ва ўмовах пастаяннага ціску на Канстытуцыйны Суд з боку Лукашэнкі і ягонай адміністрацыі. Хоць артыкул 110 Главы 6 «Суд» і вызначае, што «умяшальніцтва ў дзейнасьць судзьдзяў пры ажыцьцяўленьні правасудзьдзя недапушчальнае і вядзе адказнасьць па закону», але абсалютна відавочна, што у дадзеным выпадку паняцьце «правасудзьдзе» не ахоплівае кантроль за канстытуцыйнасьцю нараматыўных актаў і, пры жаданьні, дае магчымасьць выключыць з гэтага палажэньня сябраў Канстытуцыйнага Суду.

Гэткім чынам, Канстытуцыйны Суд не толькі пазбаўляецца дэклараванай функцыі кантролю за канстытуцыйнасьцю нарматыўных актаў, але і ў значнай ступені робіцца залежным ад прэзыдэнта. У праэкце Канстытуцыі відавочнае жаданьне падпарадкаваць Канстытуцыйны Суд прэзыдэнту. Дзейнасьць гэтага воргану зьведзеная да узроўню юрыдычнай канстытуцыйнай экспэртызы, якая не прадугледжвае ніякіх юрыдычных вынікаў.

### ПА ПРЫКЛАДУ АДОЛЬФА

У артыкуле 84 праэкту, дзе вызначаныя важнейшыя функцыі і паўнамоцтвы прэзыдэнта, першым пунктам, здавалася б, нечакана, запісана: «прызначае рэспубліканскія рэфэрэндумы». Не пытаньні сувэрэнітэту, нацыянальнай бясьпекі на першым месцы, як у цяперашняй Канстытуцыі, а менавіта прызначэньне рэфэрэндуму ёсьць першае і галоўнае. І гэта зусім не капрыз хваравітай псіхікі. Рэфэрэндум у аўтарытарным недэмакратычным грамадзстве ёсьць магутная палітычная і праўная зброя дыктатуры. Узурпаваўшы ўладу і манапалізаваўшы прэсу, хунта альбо дыктатар, лёгка маніпулюючы масавай сьвядомасьцю, могуць шляхам арганізацыі «падтрымкі народу» дамагчыся быццам бы легітымнага апраўданьня любым, нават самым ганебным, нават крымінальным дзеяньням. Адольф Гітлер у 1934 годзе атрымаў 90 адсоткаў народнае любові, камуністы ў СССР заўсёды мелі 99,9 адсоткаў, Садам Хусэйн амаль сто (здаралася, што і больш, чым сто).

Хунта Лукашэнкі гэта разумее. Таму у главу 2 аб рэфэрэндуме ўнесеныя палажэньні, што рэфэрэндум прызначае прэзыдэнт «па ўласнай ініцыятыве», а таксама на прапанову Сэнату і Палаты прадстаўнікоў. Тут жа абмежавана магчымасьць ініцыяваньня рэфэрэндуму самім народам шляхам увядзеньня раўназначных квотаў подпісаў па вобласьцях і горадзе Менску, што ўскладняе працу і не заўсёды рэальна. Але галоўнае — гэта парушае правы людзей на свабоднае волевыяўленьне, паколькі Беларусь унітарная дзяржава, а беларусы адзіная нацыя, а не фэдэрацыя. Квоты на подпісы па вобласьцях тут не прымальныя. Хунта Лукашэнкі, аднак, паклапацілася, каб зброю рэфэрэндуму, гэтак жа як і ўладу і сродкі масавай інфармацыі, трымаць толькі ў сваіх руках.

### НА ШЛЯХУ ДА КАНФЛІКТУ

Знаёмства з асноўнымі палажэньнямі Канстытуцыі, вынесенымі на рэфэрэндум, дазваляе зрабіць выснову, што праэкт, перанасычаны папулісцкімі фразамі і не юрыдычнымі фармулёўкамі, выкліканы выключна палітычнымі мэтамі цяперашняй сітуацыі: жаданьнем Лукашэнкі пазбавіцца адказнасьці за незаконныя дзеяньні і паталагічным імкненьнем да абсалютнай і непадзельнай улады. Гэта ня столькі юрыдычны, колькі палітычны дакумэнт — прыклад недэмакратычнай канстытуцыі, якая зацьвярджае непадзельнае аўтарытарнае права на ўладу.

У праэкце ліквідаваны асноўны дэмакратычны прынцып — самастойнасьці і падзелу галінаў улады. Парлямэнт і суды, уся кадравая палітыка ў сыстэме ўлады, заканатворчы працэс, усе ўладныя прыярытэты і магчымасьці, кантрольныя функцыі, фінансы і бюджэт, — усё аддаецца ў рукі аднаэй асобы — прэзыдэнта краіны, адсунуць якога, прыцягнуць да адказнасьці, зьмяніць — на законных падставах — практычна немагчыма. Захаваньню і гарантыям неабмежаванай аднаасобнай улады прэзыдэнта падпарадкаваныя ўвесь сэнс і зьмест праэкту.

Гэтую канстытуцыю, у выпадку яе прыняцьця, немагчыма рэалізаваць нават у тым варыянце, у якім яна створаная. Яе прынцыпы будзе выглядаць чыста палітычным актам, які дае падставы зацьвердзіць дыктатуру і расправіцца з апазыцыяй. Далейшае разьвіцьцё узаемаадносінаў улады і грамадзтва, калі яно паспрабуе жыць па лукашэнкаўскай канстытуцыі, можа прывесьці толькі да канфлікту. Шляху легітымнага вырашэньня гэтага канфлікту лукашэнкаўская канстытуцыя не прапануе.

Больш за ўсё ад запланаванага рэфэрэндуму і, потым, ад дзеяньняў улады на падставе аўтарытарнай канстытуцыі пацерпіць беларуская нацыя (калі яна ўвогуле выжыве пасьля такіх маніпуляцыяў. Ня варта забывацца, што за сьпіной Лукашэнкі стаіць расейскі імпэрыялізм і камуна-фашысцкая палітыка).

Аднак мы гэтаксама зьвяртем увагу на нэгатыўныя міжнародныя наступствы ў выніку канстытуцыйнага замацаваньня пракамуністычнай прарасейскай дыктатуры ў краіне Ўсходняе Эўропы.

У гісторыі з рэфэрэндумамі на Беларусі ёсьць моманты амаль ірацыянальныя. Травеньскі рэфэрэндум 1995 году, які зганьбіў нацыю, праводзіўся ў парушэньне Канстытуцыі, якая не дазваляе рабіць усенароднае галасаваньне па пытаньнях мовы, міжнароднае палітыкі і гэтак далей. Цяпер сытуацыя паўтараецца. Згодна із цяперашняй Канстытуцыяй, на рэфэрэндум выносяцца толькі «зьмяненьні і дадаткі Канстытуцыі», але ніяк не сама Канстытуцыя. Пры гэтым, галасуюць зноў жа толькі па «рашэньню аб зьмяненьні і дапаўненьні» Канстытуцыі, а не па ўсёй Канстытуцыі. І рашэньне лічыцца станоўчым, калі прагаласуе не менш як 2/3 удзельнікаў рэфэрэндуму, як таго патрабуе артыкул 36 Закону аб рэфэрэндуме.

Тым ня менш, парляамэнт не толькі прызначыў дату рэфэрэндуму, але ўплывовая фракцыя камуністаў вынесла на ўсеагульнае галасаваньне яшчэ адзін (уласны) праэкт Канстытуцыі, змагаючыся такім чынам супраць рэфэрэндуму, за які самі ж раней і прагаласавалі. Тым ня менш, факт застаецца фактам — вынясеньне на рэфэрэндум праэкту Канстытуцыіі, а не паправак і дадаткаў, — незаконнае.

**Зянон Пазьняк**
**Сяргей Навумчык**

*Ад рэдакцыі: крытыку праэкту Лукашэнкаўскай канстытуцыі гэтаксама друкуюць: Камітэт Амэрыканскіх Юрыстаў па Дапільнаваньню Людзкіх Правоў, некалькі унівэрсытэцкіх адвакацкіх суполак, Рада Эўропы. Усім названым групам былі дасланыя таксама друкаваныя тут матар'ялы зАўвагі БАЗА.*

# 22-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ



*Група ўдзельнікаў Сустрэчы*

Фота К. Вініцкай

Ад 31-га жніўня да 2-га верасьня ў Кліўлендзе, штат Агаё, адбылася 22-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Сытуацыя ў Краі прадвызначыла характар сустрэчы. Яна была прысьвечаная Абароне Дзяржаўнасьці й Дэмакратыі ў Беларусі ды прымеркаваная да лякальнае даты — 200-дзя гораду Кліўлэнду. Падобныя сустрэчы сталі традыцыяй эміграцыі. Варта згадаць, што папярэдняя, 21-я Сустрэча адбылаcа два гады таму ў Таронта, Канада.

Гэтым разам, на сустрэчу сабралася больш за 300 беларусаў з розных куткоў кантынэнту — з штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзы, з гарадоў Чыкага, Дэтройт, з Таронта ды іншых мясцовасьцяў, госьці з Бацькаўшчыны.

Сустрэча распачалася ўрачыстым падняцьцем беларускага бел-чырвона-белага й амэрыканскага сьцягоў перад будынкам Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру «Полацак» й грамадзкім форумам, дзе прамаўлялі паважаныя дзеячы эміграцыі й госьці.

У часе форуму, паміж З. Пазьняком і С. Шушкевічам адбылася вострая дыскусія, якая дэманстравала рознае разуменьне імі палітычнае сытуацыі ў краіне й розныя праграмы дзеяньняў. Свае пазыцыі выказалі гэтаксама прадстаўнікі паважнейшых арганізацый эміграцыі, як БАЗА, Кааліцыя ў абарону дэмакратыі й правоў асобы ў Беларусі, інш. Эмацыянальна выступіў старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. Антон Шукелайць. Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч выказаўся за актывізацыю дзейнасьці ўзначаленае ім інстытуцыі. Пытаньне актывізацыі Рады БНР абмяркоўвалася й паза форумам. Зьмястоўным быў выступ кліўлендзкага актывіста Поля Васілеўскага.

Пасьля форуму гасьцей чакаў пачастунак ды футбольны матч дружыны «Беларус» на блізкім да цэнтру стадыёне. Пад вечар у залі зайграў гурт «Забава» з Чыкага, запрашаючы на танцы. Пад гукі народных і эстрадных мэлёдый людзі танчылі вальсы, полькі, кракавякі. Вясёлая мітусьня запанавала ў залі. Публіку чакалі смачныя прысмакі, напоі.

Былі адчыненыя выставы беларускага ткацтва, карцінная й фотагалярэі, прадавалася беларуская літаратура.

Наступнае раніцы 1-га верасьня ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ адбылася архірэйская літургія ў супольнай адправе мітрапаліта Мікалая з Таронта, айца Міхася Страпко й айца Васіля Андрэюка з Нью Брансуіку.

Папалудні, у Цэнтры «Полацак» адбыўся урачысты банкет.

На банкеце бралі ўдзел: лідэры БНФ Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык, былы старшыня парляманту С. Шушкевіч, былы пасол ЗША ў Беларусі Дэвіў Шворц, кангрэсмэн Марцін Гоўк, прадстаўнік губэрнатара штату Агаё Пуст, сын былого мэра Кліўленду й кліўлендзкага прыхільніка беларусаў Ральфа Пэрка, Ральф Пэрк, малодшы ды іншыя. Сп. Пуст павіншаваў удзельнікаў сустрэчы, зазначыўшы з беларускай абшчынай, ды перадаў праклямацыю пра абвяшчэньне ў штаце Агаё Беларускіх дзён на пэрыяд імпрэзы.

У прамовах іншых прадстаўнікоў амэрыканскіх афіцыйных колаў прагучэла занепакоенасьць станам рэчаў у Беларусі й абяцаньне свае падтрымкі дэмакратычнага працэсу й дэмакратычнай апазыцыі. Некаторыя прамоўцы крытыкавалі зьнешнепалітычны курс прэзыдэнта Клінтана з-за падатлівасьць расейскаму рэваншызму ва Ўсходняй Эўропе й гаварылі пра патрэбу «дэрусыфікацыі» ўрадавых інстытуцый ЗША.

На банкеце таксама выступаў дырэктар БІНІМ сп. Вітаўт Кіпель, які пазнаёміў сабраных з кароткай гісторыяй фармаваньня й дзейнасьці беларускага асяродка ў Кліўлэндзе, які ёсьць цяпер асноўным цэнтрам беларусаў на амэрыканскім кантынэнце. Былі зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Народнага Фронту, Фэдэральнае Рады Беларускіх арганізацый ў Аўстраліі, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Маскоўскага таварыства беларускае культуры, ды многіх іншых арганізацый з Краю й усяго сьвету. Ад імя Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Маскоўскага таварыства беларускае культуры, ды многіх іншых арганізацыяў з Краю й усяго сьвету. Ад імя Згуртаваньня беларусаў сьвету Бацькаўшчына выступіў госьць зь Менску прафэсар Анатоль Сабалеўскі. Напрыканцы форуму ўдзельнікі сустрэчы прынялі зварот да беларускага народу.

Забавы працягваліся пад вясёлую танцавальную музыку, сьпевы менскага барда Алега Атаманова. З цудоўным наборам беларускіх песень выступіў кліўлендзкі жаночы хор пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч. Зьмяняліся выступоўцы на сцэне, перад сцэнай хтосьці кружыўся ў танцах, вясёла гудзелі кулюары, кампаніі гулялі ў парку ля цэнтру, мяняліся прысмакі. Старэйшыя ўспаміналі былыя эміграцкія дарогі, сяброў і сваякоў, свае родныя мясьціны. Маладзейшыя знаёміліся паміж сабой, весяліліся, адпачывалі ад працоўных турботаў. Бывальцы папярэдніх сустрэчаў цьвердзілі, што гэтым разам удзельнікаў паменела, але зьвяртала да сябе ўвагу ўжо ладная колькасьць новых эмігрантаў, прычым з розных асяродкаў. Працэс амаладжэньня эміграцыі, бязумоўна йдзе. Вельмі шкада, што гэтым разам ня было на Сустрэчы прадстаўнікоў Аўстраліі й Вялікай Брытаніі.

2-га верасьня з раніцы гасьцей чакалі дарогі ў розныя канцы Амэрыкі.

Бывай, беларускі Кліўленд! Да спатканьня праз пару гадоў ў штаце Нью Джэрзы на будучай 23-й Сустрэчы беларусаў Амэрыкі.

**Ю.В.**

# АБАРОНА ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ І ДЭМАКРАТЫІ БЕЛАРУСІ

*(Несказаная прамова на 22-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі)*

Як можна бараніць дзяржаўнасьць і дэмакратыю Беларусі, жывучы на другім баку акіяну, за тысячы міляў ад беларускага краю?

Можна!

Калі мы застанемся злучаныя думкамі і сэрцам з народам, зь якога выйшлі; калі наш дабрабыт будзе нам штодня напамінаць аб нястачах, у якіх жывуць цяпер суродзічы на Бацькаўшчыне; калі будзем ведаць пра цяжкасьці, матар'яльныя і маральныя, якія ім даводзіцца перамагаць кожнага дня; калі ў нас і будзе спачуваньне да ахвяраў палітычнага і маральнага ўціску, а таксама да пакутнікаў ад чарнобыльскай радыяцыі і гатовасьць дапамагаць ім.

Як можна бараніць дзяржаўнасьць і дэмакратыю Беларусі, калі там дыктатар паставіў сабе на службу тысячы паліцыянтаў і назьлічоныя аддзелы спэцслужбаў; калі топчуцца сьвятыя сымбалі, абражаецца мова і нацыянальнае пачуцьцё ды жорсткай сілай разганяюцца мірныя дэманстрацыі?

Можна!

Калі будзем цікавіцца падзеямі на Бацькаўшчыне; калі будзем ведаць і пра добрае, і пра благое; калі, бачачы гвалт над беларускім народам, будзем паведамляць пра гэта прадстаўнікам у Кангрэсе Злучаных Штатаў- і у Парляманце Канады.

Як можна бараніць дэмакратыю ў Беларусі, калі там аўтарытарная ўлада манапалізавала сродкі масавай інфармацыі, павыганяла з краіны незалежныя органы друку і шантажуе журналістаў, якія працуюць ва ўрадавых выданьнях?

Можна!

Трымаючы сувязь са свабоднымі навукоўцамі і журналістамі ў Беларусі, сустракаючыся зь імі ў часе сваіх падарожжаў на Бацькаўшчыну, запрашаючы іх да сябе ў Амэрыку і Канаду, знаходзячы ім магчымасьці азнаямленьня з заходнімі парадкамі, пасылаючы ў Беларусь замежныя выданьні.

Як можна бараніць дзяржаўнасьць Беларусі, калі зьнішчаюцца падручнікі гісторыі, а гістарычная праўда падменьваецца фальшам, русыфікуецца адукацыя, занядбоўваецца нацыянальная культура.

Можна!

Падтрымваючы выдавецкую дзейнасьць у замежжы: складаючы грашовыя ахвяры на выданьне кнігаў БІНіМ, газэту «Беларус», часапісы "Belarusian Review", «Беларусі дайджэст», «Зважай», «Беларуская думака», бюлетэні «Весткі і паведамленьні аддзелу БАЗА Нью-Ёрк», «Інфа-ЗБК», а таксама падтрымваючы бюлетэнь, які нядаўна пачалі выдаваць у Варшаве сп.сп. Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык.

Як можна бараніць дзяржаўнасьць і дэмакратыю Беларусі, калі вялікая частка беларуска-амэрыканскага і беларуска-канадзкага маладога пакаленьня вельмі мала цікавіцца дзяржаўнасьцяй і дэмакратыяй Беларусі?

Можна!

Паказваючы нашым дзецям і ўнукам на прыклады іхных аднагодкаў, якія выказалі зацікаўленьне да свабоднай Беларусі; запрашаючы сваіх нашчадкаў з сабой у падарожжа на Бацькаўшчыну; дорачы ім англамоўную літаратуру пра Беларусь; падахвочваючы іх у іхнай вучобе да гуманістычных дысцыплінаў, зь якіх яны змаглі-б заняцца беларусістыкай.

Усе гэтыя захады, калі іх разглядаць упаасобку, могуць здацца дробнымі і неэфэктыўнымі. Але калі скласьці іх разам, яны вырастаюць у значны высілак. Пасьля таго, як рухнула «імпэрыя зла», не павінна быць нічога немагчымага, калі дамагацца агульнымі сіламі, самаахвярна. І нічога не спараджае глыбейшай перакананасьці ў праўдзе, мацнейшых пачуцьцяў самаахвярнасьці, як справа свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай Беларусі.

**Янка Запруднік**

# 22-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

Сёлетная Сустрэча была прысьвечаная тэме, якая нас усіх найбольш турбуе й клапоціць — Абароне Дзяржаўнасьці й Дэмакратыі Беларусі.

Вось-жа і пытаньні й адказы былі ў асноўным засярэджаныя на гэтай тэме. Як ня дзіўна, што, хоць разважаем і рэагуем на падзеі ў Беларусі мы ўсе больш-менш падобна, адказы былі не рэпэтатыўныя. Пагляд кожнага з апытальнікаў быў свой собскі, выказваньні аргінальныя й цікавыя. І на стандартнае: «Які ваш пагляд на сучаснае палажэньне ў Беларусі, што трэба і што можна зрабіць у гэты цяжкі для Бацькаўшчыны час», добрая тузіна асобаў, выбраных бязь нейкіх спэцыяльных разьлікаў, дала шчырыя, нявымушаныя адказы, якія, як-бы дапаўнялі адзін другога і абагульнілі наш калектыўны пагляд на сытуацыю.



**Давід Суорц, былы амэрыканскі амбасадар у Беларусі.**

Падзеі ў Рэспубліцы Беларусь даюць да думаньня аб узрастаючай палярызацыі ў гэтай неспакойнай краіне. Адным з асноўных паказальнікаў гэткага стану, але не ў ніякім выпадку не адзіным, стаўся дагавор аб'яднаньня з Расеяй. Прапанаваныя зьмены заканадаўчай і судовай уладаў, банкавай сыстэмы, так, самой канстытуцыі, прадказваюць далейшую палярызацыю паміж выканаўчай і заканадаўчай галінай улады і ейнае адлюстраваньне ў шырэйшым грамадзтве.

Падзел сам сабой не абавязкава дрэнная зьява, але адсутнасьць законнасьці — зьявішча дрэннае. Беларусь, якая шырака ведамая сваёй талерантнасьцю, тым ня менш ня можа сабе дазволіць талераваць беззаконьне. Толькі строгім прытрымоўваньнем *літары закону*, Беларусь можа дасягнуць палітычнай дасьпеласьці і эканамічнай стабільнасьці і заняць праўнае месца, як дзейна-творчы сябра, у міжнароднай грамадзе.

**Аўген Кабяка, Кліўлэнд.**

Сумна, што такія трагічныя падзеі на Беларусі, што ўсё варочаецца назад. Чатыры гады таму быў патрыятычны настрой, усё аджывала і гэта нам дадавала энэргіі тут. Ад нашых лідараў мы хацелі-б, каб яны больш змагаліся за беларускасьць, за дэмакратыю, за беларускую мову і культуру, такую багатую й прыгожую. Каб ня было такіх непрыемных неспадзяванак, як на нашай Сустрэчы, дзе на вечарыне аркестра зь Беларусі пачынала нам граць расейскія «Каробушкі», чаго ніколі на нашых сустрэчах раней ня было. Некаторыя людзі абурыліся і шмат каму сапсуўся настрой, што русыфікацыя дайшла ўжо і да беларускіх народных ансамбляў.



**Зянон Пазьняк, лідар Беларускага Народнага Фронту.**

Павінен быць рух у абароне незалежнасьці і дзяржаўнасьці Беларусі — рух БНР. Павінен быць палітычны грунт для палітычнай пэрспэктывы. Гэта таксама будучыня. Цяпер Беларусь перажывае цяжкія часы і ідэя БНР будзе пуцяводнай зоркай, якая будзе весьці нас у далейшай працы. Але ўсякая арганізацыя мусіць, акрамя ідэалу, мець і матар'яльны грунт. Мусіць быць яшчэ запачаткаваны адпаведны Фонд для дзейнасьці і ажыцьцяўленьня гэтае незалежніцкае ідэі. Я спадзяюся, што гэта будзе яшчэ разглядацца й дыскутавацца на нашых супольных зборках, і нават яшчэ тут, на Сустрэчы.



**Барыс Рагуля, заступнік старшыні Рады БНР, Канада.**

Наш беларускі прэзыдэнт — Квісьлінг. У Беларусі камплетная таталітарная сыстэма, дзе народ ня мае ніякага голасу. Вярхоўны Савет, калі і рэпрэзэнтуе плыні беларускага народу, усёроўна яны ня маюць ніякага ўплыву на падзеі эканамічнага й палітычнага жыцьця. Асноўнае права чалавека — на працу й выбар працы, у Беларусі, пад вялікай пагрозай. Працай кіруецца лёс чалавека. А калі ўрад дае працу (у індустрыі, на гаспадарцы, у народнай адукацыі) дык ён усё і кіруе і кантралюе. Сяляне усёроўна засталіся прыгоннымі нявольнікамі. Прыватная собскасьць зямлі есьць аснова эканамічнага росту краіны.

Выслухаўшы сёньняшніх лідэраў, прадстаўнікаў зь Беларусі, мы зарыентаваліся ў цяжкасьцях, у недахопе дэмакратычнага прагрэсу грамадства. Мы тут, на эміграцыі мелі горкае дасьведчаньне з палітычнымі падзеламі, але ня гледзячы на ўсё мы ўсе гуртаваліся на прынцыпе незалежнасьці і дэмакратыі ды захавалі непахісную беларускасьць. Рада БНР хоча стварыць палітычны цэнтр — экзыльны ўрад, які будзе бараніць ідэю беларускай дзяржаўнасьці, як тут на эміграцыі, так і на бацькаўшчыне.



**Станіслаў Шушкевіч, сябра Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь.**

Прыехаў сюды спэцыяльна на Сустрэчу — выказаць свой пагляд на абставіны ў Беларусі: што і як трэба рабіць, працаваць, каб сытуацыю палепшыць. У гэтым цяжкім часе нам трэба аб'яднаць розныя палітычныя рухі. І мы робім гэта. Вельмі важна сфармуляваць ідэю дзяржаўнасьці, беларускасьці, канстытуцыйнасьці, сацыяльна-арыентаванага рынку. Аднак сучасная ўлада стаіць на перашкодзе.

Што да пытаньня аб дачыненьнях эміграцыі і Бацькаўшчыны, дык зазначу, што езьдзіць у Беларусь трэба — там патрэбныя кантакты з цывілізаванай публікай, а што да гарантыяў, дык ад вар'ятьаў гарантыяў чакаць цяжка.



**Анатоль Сабалеўскі, зь Менску.**

Вельмі мне спадабалася гэтае яднаньне беларусаў — гэта для нас кісларод. Тое што нам цяпер патрэбна. Склалася так, што беларуская нацыя найбольш раскіданая па сьвеце. І ў сёньнешні такі скрутны час, калі зноў трэба змагацца каб «людзьмі звацца» нам трэба паяднаць усе сілы — і нацыянальныя, і інтэлектуальныя, і тэхнічныя, і эканамічныя. І калі мы, як адзін, возьмемся за рукі, нас ніхто не пераможа. Хай гэта будзе можа аптымістычна-рамантычны пагляд, але тым ня менш гэта мой пагляд.

Усе гэтыя дні на Сустрэчы мы жылі аднэй ідэяй — Беларускай ідэяй. Ня гледзячы на нашыя розныя палітычныя погляды, розныя падыходы — гэта натуральна — было адзінства, якое дае падставу для аптымізму.



**Галіна Русак, зь Нью-Джэрзі.**

Я зусім ня была задаволеная з выказваньнямі прадстаўнікоў зь Беларусі — мне здавалася, што палітычныя дыялёгі маглі-б праходзіць у больш канструкцыйным тоне. Мяне таксама моцна занепакоіла, што сярод прамоўцаў выказваліся пагляды аб тым, што Амэрыканскі урад падтрымвае Расейскую палітыку больш, чым спрые дэмакратычным намаганьням ва Ўсходняй Эўропе.

Таксама няпрыемна ўразіла адна зьява. Не гледзячы на тое, што Беларускія жанчыны прыймаюць вельмі актыўны ўдзел ва ўсіх галінах беларускага жыцьця, не заўважалася адпаведная рэпрэзэнтацыя іх у ганаровых мейсцах. За ганаровым сталом на банкеце ня было ніводнае жанчыны.



**Др. Алла Рамана, зь Нью-Ёрку.**

Я лічу, што нам ня трэба кідацца ў роспач. Як не глянеш, а Беларусь цяпер усё-ж у лепшым стане чым была ў Савецкім Саюзе — цяпер пра Беларусь ведае цэлы сьвет.

Я бачу, аднак, адну праблему — гэта што зачыняюцца беларускія школы. Гэтага ня можна ніяк дазволіць. Дамагацца школы. Выносіць у сьвет гэтую праблему, каб людзі ведалі і дапамагалі Беларусі у гэтай несправядлівай сытуацыі.

Вельмі важныя гэтаксама нашыя кантакты зь людзьмі зь Беларусі, асабліва з грамадзкімі і дзяржаўнымі дзеячамі, каб мы маглі выказваць свае пагляды, выказваць тое у што мы верым і за за што працавалі цэлае жыцьцё.

# 22-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ



**Эдвард Тарлецкі, зь Менску.**

Вельмі прыемна мяне ўразіла тут, што так шмат старэйшых людзей, якія так шчыра й сардэчна ставяцца да нас маладзейшых, новапрыехаўшых. Цікава мне было назіраць за «новай» эміграцыяй. Нажаль сярод іх, акрамя студэнтаў, якія тут студыююць, я не знайшоў сваіх аднадумцаў.

Спадабалася мне вельмі кліўлендзкая царква — такую прыгожую царкву пабудавалі самі. Мяне вельмі ўразіла, што менавіта тут, у Амэрыцы, людзі затрымалі сваю веру, свае сьвятыні, беларускую мову ў царкве. Мяне гэта нават зьдзівіла больш чымся тое, што людзі захавалі беларускасьць.

Што людзі цікавяцца і перажываюць аб тым, што робіцца у Беларусі, гэта асабліва выявілася калі ўсе слухалі і рэагавалі на дэбаты Пазьняка й Шушкевіча.



**Расьціслаў Завістовіч, старшыня Кангрэсавага Камітэту, Вашынгтон.**

Маё жаданьне, каб людзі аб'ядналіся — ня толькі тут, на эміграцыі, але і ў Беларусі, асабліва ў Беларусі. Бо, як мы вычулі з дыскусыяў сп. Пазьняка і сп. Шушкевіча, што гэтага аб'яднаньня няма. Гэта вельмі прыкра й трагічна ды адбіваецца на лёсе беларускай дзяржаўнасьці.

Нашай задачай тут — дзейнічаць на амэрыканскі урад, бо нашая амэрыканская дзяржава самая вялікая і дэмакратычная краіна, можа паўплываць і на падзеі ў Беларусі.

А што да Беларусі — мы-б хацелі, каб лідары пачалі думаць па-дзяржаўнаму, а не сварыцца за сваю партыйную групоўку. І пажадана, каб яны пайшлі ў народ, да масаў, што нажаль ня робіцца, а ворагі выкарыстоўваюць гэта і робяць усё анты-дзяржаўнае, анты-нацыянальнае, анты-народнае.

**Язэп Арцюх, з Каліфорніі.**

Мы ўсе згаджаемся якая нашая мэта — падтрымаць і захаваць дзяржаўнасьць Беларусі — гэта мэта і для эміграцыі і для Беларусі. Адносна мэты няма супярэчнасьцяў. Справа цяжкая, як гэта асягнуць. Чым цяжкая? У Беларусі сфармавалася шмат арганізацыяў і партыяў, лікі сяброў якіх невялікія і цяжка ім камунікавацца паміж сабою. Падобная сытуацыя і на эміграцыі — шмат арганізацыяў, але мала сяброў, існуюць яны на паперы, а дзейнасьці няма. Праблемы нашыя ідэнтычныя — раздробленасьць. Толькі калі ўсе гэтыя групы скансалідуюцца — тады гэтую нашую мэту можна асягнуць. Калі сярод беларусаў 90% згодныя ўсе з мэтай і плянамі выкананьня, а 10% не згаджаецца, то яны твораць новую групу, адколваюцца. Ёсьць старое выслоўе: «У еднасьці — сіла», якое сталася амэрыканскім мотто. Трэба і беларусам узяць гэта сабе за мотта.

У нашых дыскусыях часам вычулася, што кампраміс гэта нейкая нэгатыўная зьява, але-ж у сапраўднасьці «кампраміс — рухавік дэмакратыі».



**Нікодым Жызьнеўскі, Чыкага.**

Усе мы ведаем, што сытуацыя ў Беларусі вельмі складаная — урад — анты-беларускі, зьнішчаецца ўсё беларускае, пачынаючы ад сьцягу, мовы, культуры. Цяпер Лукашэнка ізноў рыхтуе свой рэфэрэндум, што яму дасьць яшчэ боль дыктатарскіх магчымасьцяў. Робіць ён гэта ўсё падманам. І робіцца гэта ўсё на карысьць Расеі, а не Беларусі.

Што адносна нашага ўдзелу — мы можам дапамагаць дэмакратычным сілам духова і, па магчымасьці, фінансава. Але самае галоўнае, што мы павінны інфармаваць пра сытуацыю ў Беларусі амэрыканскія улады, пачынаючы ад прэзыдэнта — кангрэсмэнаў, сэнатараў, Дзяржаўнага Дэпартамэнту, прэсу і іншыя сродкі інфармацыі.

Учарайшыя дэбаты былі з аднаго боку вельмі цікавыя, карысныя і інфармацыйныя, а з другога — занепакоілі нас, што мала еднасьці, згоды і супрацоўніцтва з рознымі дэмакратычнымі партыямі, апазыцыйнымі да Лукашэнкі.



**Валянціна Трыгубовіч, зь Менску.**

Літаральна зь Беларусі — на Сустрэчу. Гэта ўжо трэйцяя і дадатнае тое, што экзотыка першых прыездаў ужо за плячыма і я магу адразу-ж уцягнуцца ў працу — прымаць удзел у дыскусіях, у нарадах, у культурных мерапрыемствах. Сытуацыю ў Беларусі я ўспрымаю як жыцьцё мора — ідзе хваля, хваля якая пачалася ў Гарбачоўскую пару, калі ў 1988 годзе заснаваўся БНФ, і якая дасягнула цяпер берагу і расплываецца па пяску, пакінуўшы сьлед. Пік гэтай хвалі прыпаў на 1994 год, на прэзыдэнцкія выбары, а цяпер настаў пэўны адплыў. А новая хваля — хваля антыпрэзыдэнцкая, і ў гэтай хвалі разам мусяць ісьці і камуністы і нацыяналісты. І грунт, на якім яны знаходзяць паразуменьне — захаваньне дзяржаўнасьці. І ў гэтай новай хвалі я бачу сваю ролю, каб вопыт, набыты ў першай рамантычнай хвалі, укласьці у галовы, у сэрцы тых, хто далучыўся да змаганьня за дзяржаўнасьць толькі цяпер. Мы мусім іх пераканаць, што дзяржаву можна пабудаваць толькі на падмурку нацыянальнай ідэі. І для гэтага мы імкнёмся выкарыстоўваць усе даступныя сродкі й мэтады. Але дзявятвы вал яшчэ ня хутка надыйдзе.



**Уладзімер Арлоў, зь Менску.**

Пачынаючы ад вясны гэтага году, ад 24-га сакавіка, калі адзначалі ўгодкі БНР, я бачыў тысячы, пераважна маладых, людзей, студэнтаў, якіх вывела на вуліцы найперш ідэя незалежнасьці і ўсьведамленьне сваё адказнасьці за лёс Бацькаўшчыны, а не нейкая палітычная партыя. Асабліва гэта было відавочна 2-га красавіка, калі ў Менску адбылася магутная акцыя пратэсту супроць падпісанага ў Маскве Беларуска-Расейскага пагадненьня аб так званым «супольніцтве», якое ў той самы дзень у народзе атрымала назоў «сожительство». Ня гледзячы на дубінкі, на кроў на менскіх вуліцах, на тысячу ўзброеных ахоўнікаў рэжыму і арышты — хваля выступленьня за незалежнасьць Беларусі працягвалася й нарастала. Цяпер мы з надзеяй чакаем, што ў верасьні, калі ўжо пачалася апрацоўка мазгоў перад прэзыдэнцкім рэфэрэндумам, прыхільнікі незалежнасьці зноў выйдуць на вуліцы пад нашымі нацыянальнымі сьцягамі і лёзунгамі ў абарону Канстытуцыі, якую Лукашэнка задумаў зьмяніць, каб атрымаць неабмежаваную ўладу. Здольнасьць Вярхоўнага Савету супроцьстаяць намерам Лукашэнкі наўпрост залежыць якраз ад тых прыхільнікаў незалежнасьці, якія выйдуць на вуліцу. У мяне двух сыноў і я веру, што яны будуць жыць у свабоднай эўрапэйскай краіне — у незалежнай Беларусі.



**Аляксандар Сільвановіч, зь Нью-Джэрзі.**

Сумная справа у Беларусі і усіх нас гэта турбуе. Усё ідзе ня ў той бок — у адваротны бок ад натуральнага. Мы спадзяваліся, што будзе адраджэньне Беларускай Дзяржавы ды, нажаль, сучасныя ўлады, ня толькі затрымалі ўсё, што пачало крыху адраджацца, але й павярнулі ўсё назад. Зьневажаецца ўсё беларускае. Але, як ня дзіўна, да гэтага пачаўся адпор і то з неспадзяванага боку — маладыя людзі, якія ня былі атручаныя савецкай прапагандай, пабачылі, што гэта не натуральна самім сябе не паважаць і зьневажаць сваю спадчыну.

Што мы можам зрабіць? Накіраваць усе нашую энэргію на тое, каб не дапусьціць развалу Беларускай Дзяржавы. Нам трэба падтрымваць тых патрыётаў, якіх перасьледуюць на Бацькаўшчыне. Мы мусім зьвярнуцца да беларускага народу, каб адбудзіць яго з гэтага трнасу у якім нашы людзі трымаліся гадамі і ў якім Лукашэнка прадаўжае іх трымаць.

**Гутарку вяла Зора Кіпель.**
**Фатаграфіі Надзі Запруднік**

*З жыцьця ў Чыкага*

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСКА Ў ГАСПОДЗЕ ГУБЭРНАТАРА



*Губэрнатар Джым Эдгар і Таня Крываручанка*

Губэрнатар штату Іліной, Джым Эдгар, нядаўна меў нагоду спаткацца з Таняй Крываручанка, якая пасьля заканчэньня студыяў у Нотэрдамскім Унівэрсытэце праводзіць гадовую стажыроўку у Офісе Этнічных Справаў пры губэрнатары штату.

Бабка Тані, якая нарадзілася у Беларусі, у Менску, навучыла яе любіць беларускую спадчыну і культуру. Гэта дапамагае цяпер Тані камунікавацца зь беларуска-амэрыканскай грамадой і перакладаць для губэрнатара.

## ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ФІЛЯТЭЛІСТЫЧНАГА КАТАЛЁГУ

Кагадзе Др. Вітаўт Рамук правёў інтэрв'ю са спадаром Багданам Паўком, каторы гадамі займаецца беларускай філятэлістыкай і з'яўляецца старшынём Украінскага Філятэлістычнага і Нумізматычнага Аб'яднаньня. Ён браў, між іншага, удзел у міжнародных філятэлістычных выставах, экспануючы беларускія паштовыя маркі. У гэтым годзе ён выдаў каталёг беларускіх паштовых марак з часоў БНР і ды акупацыйных адміністрацыяў таго часу і апошняй сусьветнай вайны, дэдыкаваны с-ву Рамукам і беларускай грамадзе ў Чыкага.



*Багдан Паук*

**Пытаньне:** Спадар Багдан Паўк, Вы выдалі цікавы каталёг беларускіх нацыянальных і мясцовых паштовых марак улучна с маркамі, выданымі чужанецкімі адміністрацыямі ў гадох 1916-1920 і 1941-1944. Якая была мэта гэтага выданьня і хто фінансаваў?

**Адказ:** Галоўная мэта выданьня каталёгу, падрыхтоўка якога заняла дзесяць гадоў, было пашырэньне і азнаямленьне філятэлістаў агульнага і спэцыялізаванага заінтэрэсаваньня зь беларускай філятэлістыкай. Выданьне каталёга фінансаваў сп-р Пятро Былін з украінскай філятэлістычнай фірмы (у Вэстчэстэр, Іліной), новы выдавец «Украінскай філятэлістыкі».

**Пытаньне:** Ці Вы ў кантакце зь беларускімі філятэлістамі і ці ёсьць на Беларусі філятэлістычныя арганізацыі?

**Адказ:** Праз 20 гадоў я карэспандаваў з беларускімі філятэлістамі. За часы савецкія карэспандэнцыя і вымена матэрыяла была абмежавана. Сытуацыя направілася пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, але на кароткі час. Цяпер ізноў прыйшло абмежаваньне, і вельмі цяжка пасылаць філятэлістычны матэрыял, які прападае. Ёсьць некалькі незалежных філятэлістычных суполак на Беларусі, прыкладам, у Воршы, Менску і Гародні. Галоўная група, яшчэ з савецкіх часоў, гэта Саюз філятэлістаў Беларусі. Існуе незалежная газэта, выдаваная Беларускім Таварыствам Калекцыянераў, якая распрацоўвае філятэлістычную тэматыку — «Беларускі Калекцыянер» (Ворша/Менск).

**Пытаньне:** Багдан, Вы з'яўляецеся старшынём Украінскага Філятэлістычнага і Нумізматычнага Аб'яднаньня, і займаецеся, сярод іншага, беларускай філятэлістыкай. Раскажыце, калі ласка, пра сваю працу.

**Адказ:** У Злучаных Штатах Амэрыкі прафэсыйная філятэлістыка заарганізавана ў аб'яднаньні (таварыствы), і кожнае зь іх спэцыялізуецца (калекцыянуе і вывучае) на пэўнай краіне ці групе краінаў. Я, як сябра Украінскага Філятэлістычнага і Нумізматычнага Аб'яднаньня на працягу амаль 25 гадоў і як старшыня ад 1992 г., заарганізаваў Беларускую Філятэлістычную Дасьледавальную Групу (Belarusian Philatelic Study Group) пры згаданым Украінскім Філятэлістычным і Нумізматычным Аб'яднаньні, якое ёсьць міжнароднае аб'яднаньне і налічвае 400 сяброў, і галоўная кватэра якой знаходзіцца ў Чыкага. Гэтае Аб'яднаньне ёсьць таксама сябрам Амэрыканскага Філятэлістычнага Аб'яднаньня (American Philatelic Society). З увагай на тое, што Беларуская Філятэлістычная Дасьледавальная Група ёсьць невялікая для самастойнай дзейнасьці (яна мае толькі 25 сяброў, большыня зь іх небеларускага паходжаньня) і ейнае далучэньне да Украінскага Філятэлістычнага і Нумізматычнага Аб'яднаньня (а празь яго і да Амэрыканскага Аб'яднаньня) дазваляе браць удзел у амэрыканскіх і міжнародных выставах. Амэрыканскае Філятэлістычнае Аб'яднаньне ёсьць сябра Міжнароднай Фэдэрацыі Філятэлістыкі, галоўная кватэра якой знаходзіцца ў Швэйцарыі і якая арганізуе міжнародныя выставы. Сябрамі Міжнароднай Фэдэрацыі Філятэлістыкі з'яўляюцца таксама Літва, Латвія, Эстонія, Украіна, Расея, Армэнія, нават Малдова, але не Беларусь. Гэта значыць, што нашыя філятэлісты на Беларусі не маюць магчымасьці ладзіць свае стэнды на міжнародных выставах. Да таго-ж хачу паінфармаваць, што Амэрыканскае Філятэлістычнае Аб'яднаньне арганізоўвае Міжнародную Філятэлістычную выставу ў травені-чэрвені 1997 г. пад назовам Pacific '97. Яна адбудзецца ў Сан-Францыска, Каліфорнія. Спадзяемся, што Беларусь, Саюз Філятэлістаў Беларусі стануць сябрамі Міжнароднай Фэдэрацыі Філятэлістыкі. Украінскае Філятэлістычнае і Нумізматычнае Аб'яднаньне, Беларуская Філятэлістычная Дасьледавальная Група возьмуць удзел у плянаванай філятэлістычнай выставе Pacific '97.

**Інтэрв'ю падрыхтаваў**
**Др. Вітаўт Рамук**

*Belarus. A catalog-checklist of national and local stamp issues...by Bohdan O. Pauk, 1996. 45 p.*

## ЮБІЛЕЙНЫ 50-ТЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

25-га травеня сёлета ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбыўся 50-ты агульны гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

17.5.1996-га г. памёр старшыня ЗБВБ сьв. пам. Аляксандар Зданковіч, таму зьезд адчыніў намесьнік старшыні сп. С. Дзейка. Пасьля малітвы «Ойча Наш» сп. Дзейка папрасіў прысутных ушанаваць сьветлую памяць А. Зданковіча хвілінай цішыні.

Да разгляду зьезду было прадстаўлена 17 пунктаў. Мандатная камісыя перагледзела дакумэнты, сяброўскія складкі прысутных. Усё было ўзгоднена са статутам ЗБВБ.

Пачаліся справаздачы й інфармацыі, як: адчытаньне пратаколу з папярэдняга зьезду, справаздача галоўнай управы, справаздача аўдытара (скарбніка й бугальтара), інфармацыі зь дзейнасьці харытатыўнай сэкцыі, справаздачы ўправаў аддзьдзелаў, справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ. Пасьля справаздачаў паўстала ажыўленая дыскусыя па ўсіх пытаньнях.

Наглядная рада дала пазытыўную ацэнку праведзенай працы уступаючай галоўнай управы. Зьезд удзяліў абсалюторыюм.

Пачаліся выбары ў новую ўправу, якія завяршыліся абраньнем наступных асобаў: старшыня — юрыст В. Еўдакімаў, намесьнік старшыні — інж. Я. Ясьвіловіч, сакратар — доктар І. Гурло, аўдытар — сп. А. Асіповіч, сябры управы — сп-ні Г. Міхалюк й сп. С. Дзейка.

У новую управу ЗБВБ былі выбраны дзьве маладыя й кампэтэнтныя асобы з «новай» эміграцыі.

У «розных справах», між іншым, многія сябры гаварылі пра сумныя падзеі ў Беларусі, пра падзеі 26-га красавіка 1996-га г., калі мірная дэманстрацыя «Чарнобыльскі шлях» была разагнана й брутальна пабіта. Зьезд асудзіў гэтую акцыю гвалту й прыняў рэзалюцыю пра неабходнасьць сябром ЗБВБ разаслаць адпаведныя лісты дэпутатам Брытанскага парляманту з мэтай інфармаваньня аб пагвалчаньні людзкіх правоў у Беларусі й узрастаньні дыктатарскай улады А. Лукашэнкі.

Зьезд скочыўся адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» й пачастункам для сяброў й гасьцей.

У гэтым годзе на зьезьдзе не было прадстаўнікоў ад беларускай амбасады у Лёндане.

Так як гэта быў юбілейны зьезд — 50-ты, будзе тут дарэчы ўспомніць, што першы зьезд ЗБВБ адбыўся ў Лёндане ў 1947-м годзе. а ЗБВБ як арганізацыя была зарэгістравана й залегалізавана ангельскімі ўладамі ў 1948-м годзе. Рэгістрацыя ЗБВБ была зроблена наступнымі асобамі: Вінцент Грышкевіч, Аляксандар Лашук, Янка Мазур, Аляксандар Надсон і Павел Наваро.

**М. Швэдзюк, Англія**

## СХОД АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА (НЬЮ ЁРК)

28-га верасьня ў памешканьні Фундацыі П. Крэчэўскага адбыўся сход Нью-ёрскага адзьдзелу БАЗА. Склікаў сход і выступіў з інфармацыяй пра дзейнасьць адзьдзелу старшыня сп. А. Міцкевіч, паводле якога, бліжэйшым заданьнем адзьдзелу ёсьць падрыхтоўка й правядзеньне справаздачна-выбарчага сходу.

У склад сяброў адзьдзелу былі прыняты пяць чалавек, якія ёсьць «новымі» эмігрантамі зь Беларусі.

Удзельнікі сходу разглядзелі пытаньне дапамогі аднаму з рэгіянальных пэрыядычных незалежных выданьняў у Беларусі ды прынялі адпаведнае рашэньне.

Сустрэча завяршылася пачастункам і сяброўскімі гутаркамі. **Ю.В.**

# АГЛЯД КНІГАЎ

## БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

У Менску выйшла з друку першая кніга «Беларускага кнігазбору» — шматтомнага выданьня беларускай літаратуры пра Беларусь ад старажытнасьці да нашых дзён, у якой мяркуецца выдаваць кнігі клясыкі, а таксама творы, што сталі рарытэтамі. Першая кніга — выбранае Яна Чачота.

У чаканьні наступнага тому (ім абяцае быць Максім Багдановіч) ёсьць над чым паразважаць. Плян-каталёг, выдадзены ў 1995 годзе, і каталёг, зьмешчаны напрыканцы кнігі Чачота, крыху розьняцца. Натуральна, у першую чаргу нас цікавяць кнігі пісьменьнікаў-эмігрантаў. (Адразу трэба зазначыць, што ў плян пакуль што ўключаны творы толькі тых, каго ўжо няма сярод жывых).

Першае, што кідаецца ў вочы, — зьнікненьне кнігі Юркі Віцьбіча «Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман». Чаму, невядома. Акрамя працы, якая дала назву ўсёй кнізе, там меліся быць зьмешчанымі шматлікія творы Віцьбіча гістарычнага ды краязнаўчага кшталту, большасьць якіх на сёньня невядома шырокаму чытачу. І, хто ведае, можа-б надрукавалі там нарэшце аповесьць «Лшона Габоо Бірушалайм», якой нешта не шанцуе пры любой уладзе. Цяпер гэтага ня будзе. Цікава было-б даведацца, рашэньне зьняць з пляну кнігу Віцьбіча — палітычнае, эканамічнае ці выключна навуковае?

Яшчэ пры пераглядзе пляну-95 зьвярталася увага на назву «Паэзія беларускай эміграцыі». Падумалася: от каб дадаліся сюды іншыя жанры прыгожага пісьменства. Хороша-б дапаўнялі адзін аднага проза А. Адамовіча, творы П. Сыча і Я. Палоннага, драматургія А. Кавалеўскага, імпрэсіі Х. Ільляшэвіча, фельетоны Л. Крывічаніна. У новым варыянце каталёга сапраўды бачу зьмены: і гэтай кнігі ня будзе. А вось «Паэзія пісьменьнікаў Беласточчыны» засталася.

Успаміны А. Калубовіча замянілі на ўспаміны Я. Германовіча. Тут можна спрачацца ці пагаджацца, але, калі ўсяго адна кніга адведзена на мэмуарыстыку эміграцыі, здавалася трэба было-б аддаць перавагу раману Алеся Змагара «Случчына ў вагні». Уласна кажучы, тое й не раман, а занатоўкі случчака пра мінулае з цікавымі гістарычнымі фактамі, з багатым фальклёрным матэрыялам, арыгінальнымі ілюстрацыямі. Аддаць перавагу, сыходзячы прынамсі з наступнага: мала хто — не кажучы, чытаў — бачыў усе томікі гэтага твору, у адрозьненьне ад згаданых вышэй аўтараў.

У абодвух плянах ёсьць кнігі У. Случанскага і У. Клішэвіча. Раман «Драбы» першага зь іх сапраўды цікавы — як спроба гістарычнай прозы па-за межамі Бацькаўшчыны. Аднак ён, дакладней, першая частка твору, ня вытрымлівае крытыкі ў параўнаньні з гістарычнымі прозай, напісанай на Беларусі, і наўрад ці мае падставы быць занесеным у пантэон беларускай прозы. Другі пісьменьнік у 70-я гады шырака рэкламаваўся *там* з выключна палітычнымі мэтамі. Час зьмяніўся, а інэрцыя засталася; як гаворыцца ў анатацыі, вершы Клішэвіча праўдзіва адлюстроўваюць жыцьцё беларускага эміграанта. Безумоўна, штосьці зь ягонай спадчыны варта захаваць — у тым калектыўным зборніку паэзіі, якога ня будзе. Але асобны том? І гэта тады, калі над адной вокладкай мяркуецца зьмясьціць творы У. Дубоўкі, Я. Пушчы і Ў. Жылкі?! Дзівосы.

Ранейшымі засталіся ідэі наконт Алеся Салаўя: друкаваць. Будзьма спадзявацца, што вершы паэта напаткаюць чытача. А вось яшчэ адна зьмена, гэтым разам прыемная: у плян-96 увайшоў Уладзімер Дудзіцкі.

Выданьне кніг пісьменьнікаў-эмігрантаў у такім паважным кнігазборы — рэч добрая, яс варта ўсяляк падртымоўваць. Толькі засмучаюць нейкія постсавецкія паводзіны арганізатараў, якія ня лічуць патрэбным зьвярнуцца да ўстаноў, людзей, што ў свой час рыхтавалі да друку творы, дзеля прыліку спытаць дазвол на капірайт, пацікавіцца, раптам адшукалася нешта новае, невядомае. Усё-ж, калі ісьці ў Еўропу, дык не азіятамі.

Шкада таксама, што сярод кансультантаў кнігазбору, вядомых навукоўцаў, няма спецыялістаў па эміграцыйнай літаратуры. Можа, тады ў кнігазбор патрапілі-б працы Льва Гарошкі, «лагойскі» том Адама Варлыгі, «Маё мястэчка» В. Сініцы-Стомы, зборнік артыкулаў сьвятароў на эміграцыі (Татарыновіч, Сіповіч, Германовіч, інш.), безумоўна вартыя таго.

Але, як пазначана напрыканцы кнігі Чачота, плян-каталёг будзе ўдакладняцца і *дапаўняцца*. Так што ўсё яшчэ магчыма. Абы толькі дажыць да завяршэньня сэрыі.

**Л.Ю.**

***Мая зямля. Альбом жывапісу беларускіх мастакоў.* Менск, 1996. 160 стар. (Тэксты па-беларуску і па-ангельску).**




Укладальнік і аўтар уступнага артыкулу Вялянціна Трыгубовіч, вядомы ў Беларусі мастацкі крытык, загадчык адьдзелу ў часопісе «Мастацтва», сабрала пад адной вокладкай творы 59 жывапісцаў XIX – XX стагоддзяў, каб паказаць харáство роднай зямлі і адначасна разнастайнасьць і багацьце талентаў, узгаданых гэтай зямлёй. Рэпрадукцыі ў альбоме разьмешчаныя ў храналягічным парадку, што дае магчымасьць адчуць, як мяняліся мастацкія стылі, як па-рознаму ўспрымалася грамадствам навакольная рэчаіснасьць. Не нацыянальнасьць або месца жыхарства мастакоў браліся да ўвагі (сярод аўтараў надрукаваных твораў ёсьць беларусы, габрэі, палякі, расейцы), а толькі іх глыбокая беларуская духоўнасьць, замілаванасьць краявідам і людзьмі, для якіх ён стаўся натуральнай часткай жыцьця, жаданьне ўсё гэта ўславіць на цэлы сьвет.

Альбом мае багаты даведачны матэрыял: падаюцца зьвесткі пра жыцьцё і працу кожнага мастака, пра яго творы, зьмешчаныя ў гэтым альбоме. Сярод 115 каляровых рэпрадукцыяў ёсьць адна, самая першая, што выбіваецца з акрэсьленага гістарычнага пэрыяду — фрагмэнт фрэскі XII стагоддзя з Спаса-Еўфрасіньнеўскай царквы ў Полацку, які, на думку дасьледчыкаў, можа быць выявою сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, нябеснай апякункі Беларусі. Гэты мастацкі твор дакументуе тысячагадовую хрысьціянскую культуру Беларусі і яе дзяржаўнасьць. Ён будзе своеасаблівым уступам і да некаторых наступных рэпрэзэнтатыўных выданьняў.

Паводле плянаў творчага калектыву альбом «Мая зямля» — першая ластаўка з сэрыі выданьняў, якія будуць несьці ў сьвет прывабны вобраз Беларусі праз творчасьць яе мастакоў. Рыхтуецца да друку наступны альбом, які прадставіць творчасьць цікавага беларускага жывапісца і графіка, народжанага пасьля другой сусьветнай вайны, — Міколы Селешчука.

Каб набыць альбом «Мая зямля», зварачайцеся на адрас:

S. Tryhubovich
40 Deerfield Rd.
Somerset, N.J. 08873

Кошт з перасылкаю $54.00.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Беларуская літаратура на эміграцыі значна шырэйшая за нашае ўяўленьне аб ёй. Шмат хто пісаў, толькі не пасьпеў скончыць, надрукаваць. Вось і Эдвард Будзька ў вольны час працаваў над гістарычным раманам, рукапіс якога, на жаль, пакуль ня знойдзены; прыгадваючы Зьмітрака Бядулю, маляваў словам імпрэсіі, часам укладаў іх у лісты і дасылаў сябрам. Адзін з такіх абразкоў, асенні, мы і выдрукоўваем сёньня:*

У Чыкага маім восень. На Беларусі — на маёй бацькаўшчыне, на маёй дзедаўшчыне і прадзедаўшчыне цяпер таксама час асеньні. На полі і ў лесе там цяпер лісьце на дрэвах і на кустах жаўцее, век свой дажывае, а на некаторых дрэвах і на кустах яно ўжо зусім пажаўцела і асыпаецца на дол, на зямлю; рэшткі лісьця жоўтага вецер зрывае з дрэў і кустоў і разьвейвае скрозь, кругом дрэва, далей — на палі, на лугі, на сьцежкі-дарожкі.

Прыглядзіўшыся да сьветла-жоўтага лісьця з дрэва-клёну аж хочацца паднязь яго, сабраць і занесьці дамоў, да мамы, каб замест подсыпкі з атсеву мукі падлажыла кляновага лісьця. Які-ж гэты добры пах чуецца ад сподняй скарынкі хлеба, печанага на кляновым лісьцю! Гэтак было калісь перад вайной — там, на бацькаўшчыне... Тутака таго паху ані смаку ад жытняга хлеба з падсяванай мукі не дазнаеш, чалавеча. Так, мае даражэнькія, жоўты колер лісьця на дрэвах, на кустах — гэта знак восені.

Летам на беларускай зямельцы жаўцелі палі ад дзікай кветкі — ад сьвірэпкі, а вялікія абшары выглядалі жоўтымі ад сьпелага збожжа, у гарадох жоўтым квятам цьвілі агуркі, гарбузы, сланечнікі. Ах, жоўтая кветка на Беларусі ёсьць скрозь-усюды знатнага роду!

А другі колер, сіні, радчэй на Беларусі спатыкаецца, але надта-ж ёсьць паважаны. Сінім цьветам цьвіце лён. І як жа міла, як прыгожа выглядае тады абсеяны лёнам палетак: сінісінюсянькі! Але сіні колер лёну маленькі ёсьць, дык ды аздобы рэдка калі зрываецца. Затое больш квят, пахучы квят сіняга васілька. Як-жа часта здобіць, упрыгожвае ён вянком галоўкі дзяўчат, як жа часта у кубку з вадой цэлы пук васількоў сініх стаіць на вокнах у хатах вясковых і на стале!

Беларускі народ сваю спадобу да родных, добра знаных і мілых яму кветаў улажыў нават у песьню, якую прыйшлося мне пачуць і навучыцца ёй паўсотні год таму ад роднай маткі. Гэты мілы верш-песьню люблю я часамі ўспамінаць. Вось і зараз:

*Няма квятку пякнейшага,*
*як сіні васілёчак.*
*Няма роду мілейшага*
*як мілы дружочак.*
*Няма квяту знатнейшага,*
*як жоўтая кветка.*
*Няма роду раднейшага,*
*як родная матка!*

## СЫМБАЛІ ЛУКАШЫЗМУ

Беларускі Дом друку выпусьціў паштовую марку з выявай Лукашэнкі.

Праэкты эскізаў гэтым разам зацьвердзіў асабіста «бацька», дый упадабаў уласную выяву на залатым фоне.

Марка паступіць у продаж напярэдадні ініцыяванага Лукашэнкам рэфэрэндуму пра зьмену Канстытуцыі краіны.

Беларусь, такім чынам, сталася адзінай на ўсходне-эўрапэйскім абшары, краінай, якая мае марку з выявай пост-савецкага прэзыдэнта. Падобная практыка нарадзілася адно ў азіяцкіх пост-савецкіх дзяржавах, як Узбэкістан, Туркмэністан ды інш.

Пасьля партрэтаў і маркі, на чарзе, бязумоўна помнік прэзыдэнту, праэкт якога гэтаксама ўжо распрацаваны.

# Зьнішчаюцца Курапаты






*Пашкоджаны надпіс на лаўцы падараванай Беларусі прэз. Клінтанам і паламаны Памятны Крыж.*

У канцы 80-х гадоў ужо бурліла Эстонія, Латвія і Літва. Там пачаўся нацыянальна-вызвалечны рух, які пашыраўся і потым прывёў да частковага распаду савецкай імперыі. На Беларусі была ціша. Здэнацыяналізаваны абыватель, па-першае, нічога ня ведаў, бо інфармацыя была пад кантролем КПСС. А калі і ведаў, то нічога не разумеў: «чэво эцім эстонцам нада?».

Узарвалі гэтае стаячае грамадзтва Курапаты. Паход на Курапаты 18 чэрвеня 1988 года стаўся, фактычна, першай свабоднай дэманстрацыяй пратэсту супраць камуністычнага рэжыму. Інфармацыя пра Курапаты падзейнічала на беларусаў, як выбух бомбы. Антычалавечы рэжым атрымаў сьмяротны ўдар, ад якога ўжо не паправіўся.

Цяпер, калі ўлада на Беларусі ў руках неўраўнаважанае асобы, усталяваны пракамуністычны рэжым і пачаліся рэпрэсіі супраць Народнага Фронту, — зноў асьмялелі камуністы.

Мэтадычна зьнішчаюцца Курапаты. Ноччу раскопваюцца і разбураюцца магілы. Быццам бы «невядомыя» прыяжджаюць сюды, калі цёмна, на машынах з сабакамі, выстаўляюць сваю ахову і робяць чорную справу. Для тых, каго бацькі гэтых цемнякоў забілі 60 гадоў назад, генацыд яшчэ працягваецца — зьдзекуюцца над касьцямі.

Усе мае звароты да ўладаў, пачынаючы з 1988 году, у міліцыю і пракуратуру, не далі выніку. У лепшым выпадку былі толькі дзяжурныя адпіскі. Мне стала зразумела, што гэтыя арганізацыі, і гэтыя людзі, атрымалі іншыя наказы і нічога не будуць рабіць дзеля таго, каб спыніць кашчуннае злачынства.

Ўжо ў эміграцыі я атрымаў новыя сьведчаньні і фотаздымкі разбурэньня Курапатаў. Вывернуты велізарны сямімэтровы Крыж Пакуты, які ў 1989 годзе людзі прынесьлі за 7 кілёмэтраў на руках, які асьвечаны сьвятарамі ўсіх хрысьціянскіх канфэсіяў. Але камуністы ёсьць камуністы — зло без берагоў, ненавісьнікі ўсяго беларускага, сьветлага, добрага, вечнага.

Памятны знак прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана — лавачка з паліраванага граніту — зьнявечаны. Спрабавалі зьбіць літары тэксту-пасьвячэньня беларускаму народу ад народу Злучаных Штатаў Амерыкі.

Ці патрэбныя да гэтага вандалізму якія-небудзь камэнтары? Памятаю, як у студзені 1994 года КДБ і кебічаўскі ўрад шалёна імкнуліся перашкодзіць візіту Клінтана ў Курапаты. Самалёту, на якім везьлі памятны знак прэзыдэнта, спачатку не дазволілі пасадку ў Менску, і ён мусіў вярнуцца ў Франкфурт. Потым ляцеў паўторна. Клінтану адмовілі даваць кэдэбісцкую ахову ў Курапатах. Не грэбавалі нават патэлефанаваць ананімна ў пасольства ЗША і сказаць, што ў Курапатах быццам бы пакладзеная міна. Але прэзыдэнт Клінтан усё ж наведаў Курапаты. Ён, між іншым, спытаўся, чаму беларускія ўлады так дрэнна ставяцца да Курапатаў. Я адказаў: таму, што ў Беларусі кіруюць нашчадкі тых, хто забіваў у Курапатах.

Вандалізм у мейсцы нацыянальнага мартыралёгу — што можа быць больш подлым! Хіба чалавек, у якога ёсьць нешта Боскае ў душы, можа замахнуцца на Крыж Пакуты! Памятаю, як у 1950-1960 гадох бальшавікі сьпілоўвалі крыжы пры беларускіх дарогах. Вечарам стаяў — нараньні няма. Але людзі ведалі, хто гэта зрабіў, і казалі: Бог яго пакарае. І дзіўная рэч — караў. Усе тыя, хто зьнішчаў крыжы, дрэнна скончвалі. То тапіліся, то сьпіваліся, то хварэлі, то жонка памерла. Вось вам і містыка, вось вам і фальклёр. Факт. Зло супярэчыць самой прыродзе зьяваў.

Дрэнна скончыў і камунізм. Але варварства ў Курапатах паказвае, што як толькі дзе камунізм пачынае аджываць, а камуністы падымаць галаву — яны гатовыя ўсё пачаць спачатку. Бо такая ўжо цёмная прырода гэтага зла.

**Зянон Пазьняк**

*14.8.96*
*Нью-Ёрк*

---

Заслужанага й адданага грамадзкага працаўніка заснавальніка й актывіста дзесяткоў беларускіх арганізацыяў у Эўропе й Аўстраліі, шаноўнага

**МІХАСЯ ЛУЖЫНСКАГА**

вітаем з круглымі ўгодкамі.

**Рэдкалегія «Беларуса» й сябры**

---

## ЛОШЫЦА — МЕСЦА БАЛЬШАВІЦКІХ ЗАБОЙСТВАЎ

Горад Менск — сваесаблівы мартыралёг. І пачаў ён сваю летапісную гісторыю ў 1067 годзе ад запісу ў летапісе пра яго поўнае зьнішчэньне. Праз шматвяковую гісторыю зьнішчаўся горад не адзін раз, у той ці іншай вайне, тымі ці іншымі акупантамі. Пэрыяд бальшавіцкай акупацыі таксама быў бязьлітасны. Горад выглядаў сваесаблівай фабрыкай сьмерці. Акрамя Курапатаў тут было яшчэ каля дзесятка месцаў, дзе адбываліся масавыя забойствы. Страляніна тут гучэла кожную ноч на працягу многіх гадоў. Стралялі ў патыліцы камуністычным ахвярам. Іх звозілі ў Менск адусюль. Растрэльвалі ў Курапатах, у лесе Ваньковіча (цяперашні парк Чалюскінцаў у цэнтры Менску). Некалькі гадоў назад Беларускі Народны Фронт паставіў тут крыж. Потым расстрэльвалі на ўсход ад лесу Ваньковіча кілёмэтраў за 5-7 па Барысаўскім тракце. У пачатку 60-х гадоў пахаваньні выявілі тут пры пракладцы дарогі. Рэшткі растраляных былі зьнішчаны пры ўдзеле КДБ.

У гэтым жа раёне (лесу Ваньковіча і Сьляпянкі) знаходзілася зласвесная дача Цанавы (кіраўніка НКВД на Беларусі). Тут таксама стала растрэльвалі. Дзе жылі, там і забівалі. Там і закопвалі.

Растрэльвалі таксама ў лесе ля вёскі Дроздава каля Курапатаў і тут-жа побач у мясцовасьці каля вёскі Баравая, далей — у Зацені. Пасьля вайны ў канцы саракавых гадоў бальшавікі растралялі людзей за менскай Кальварыяй па дарозе на Ракаў і далей у раёне Кунцаўшчыны. Яшчэ далей ля вёскі Тарасава ў чэрвені 1941 году энкавэдысты растралялі некалькі сот палітвязьняў.

На працягу ўсяго 1937 году кожны дзень забівалі людзей у глыбокіх ярах каля вёскі Лошыца, што за Камвольным камбінатам на ўскраіне Менску. Мясцовыя людзі памяталі і ведалі пра гэтыя забойствы.

У 1988 годзе я некалькі разоў размаўляў са сьведам лошыцкіх растрэлаў спадарыняй Верай Шумскай (аўдыёзапіс гутаркі захоўваецца), якой тады ўжо ішоў дзевяты дзесятак. Людзей прывозілі на грузавіках, рукі іх былі закручаны назад і зьвязаны дротам. Прывозілі як правіла рана на сьвітаньні. Энкавэдысты асабліва не хаваліся. У расстрэлах бралі таксама ўдзел мясцовыя камуністычныя актывісты, стукачы і падонкі, якім проста хацелася пастраляць у чалавека. Гэтакім актывістам плацілі за растрэл 50 капеек. (За тыдзень такі энтузіяст мог зарабіць на бутэльку гарэлкі). Энкавэдысты выхваляліся, што пускаюць у расход «врагов народа». Растраляных закопвалі ў вялікіх ямах, як і ў Курапатах.

У 1988 годзе ў час археалагічных дасьледваньняў Курапатаў я вырашыў адначасна дасьледваць Лошыцу. Калі я прыехаў сюды з камандай археолагаў, я не паверыў сваім вачам... Яроў не было. Не было вялікіх марэнных узгоркаў, на якіх раней рос яблыневы сад. Не было і саду. Яры плошчай каля трох гэктараў былі засыпаны мокрым галечным жвірам і ўтрамбаваныя катком. Узгоркі ссунуты бульдозэрам у яры, сад высечаны, яблыневыя дрэвы сьцягнуты ў кучы.

За паўкілёмэтра — кантора прыгараднага калгасу. Старшыня быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся, што яры засыпаны. Яшчэ два тыдні назад яны былі. Нехта прарабіў тытанічную працу. Потым я даведаўся, што некалькі месяцаў назад гэтую тэрыторыю забралі ў калгаса і перадалі ў валоданьне гораду Менску. Горад хуценька пачаў рабіць стаянку для машын (на яме, на касьцях). Цяпер гэта ўсё пакрыта асфальтам, стаяць аўтамабілі, пабудавана прахадная, у якой сядзіць вечны адстаўнік, былы палкоўнік Савецкай Арміі і правярае дакуманты.

Я яшчэ раз пераканаўся ў магутнасьці КДБ. Трэба — дык і горы скапаюць, і рэкі засыплюць. На гэты раз яны пасьпелі. Дасьледваць лошыцкія магілы практычна ўжо немагчыма. Засталіся толькі галасы сьведкаў на магнітнай стужцы і Боскі суд для забойцаў наперадзе.

У 1995 годзе на Дзень Задушны і Дзяды актывісты Беларускага Народнага Фронту паставілі тут вялікі драўляны крыж і сьвятары асьвяцілі яго з малітвай. Такіх месцаў, як Курапаты, як Лошыца надзвычай шмат на Беларусі. Мы пра іх ведаем і памятаем пра генацыд — народагубства.

**Зянон Пазьняк**

---

## ПАДЗЯКА

Шчырая падзяка за прысланыя выразкі: М. Швэдзюку, К. Враб'ю, А. Маркевічу, К. Акулу, Ю. Кіпелю, Ю. Найдзюк, К. Вініцкай, А. Тэлешу, А. Міцкевічу, Б. Даніловічу, Б. Загорскаму, К. Кудрэйку, А. Сноўскаму.

## ВЫСТАЎКА Ў МАСТАЦКІМ ЦЭНТРЫ Ў ГАНТЭРДОН, НЬЮ-ДЖЭРЗІ



*Фрагмэнт выстаўкі.*

**Фото А. Кольба**

Хутка пасьля вельмі ўдалай выстаўкі беларускага мастацтва, прысьвечанай 10-ці годзьдзю Чарнобыльскай катастрофы у Дзіцячым Музэі ў Вашынгтоне, была наладжаная выстаўка абразоў у Мастацкім Цэнтры у Клінтан, Нью-Джэрзі. Гэтым разам выстаўка ладзілася супольна дзьвума арганізацыямі: Беларускай Культурна-Асьветнай Асацыяцыяй ў Нью-Джэрзі і Беларускай Асацыяцыяй Мастацтваў і Рамёслаў. Мастацкі Цэнтр у Гантэрдон — выдатная установа, якая прыцягвае мастакоў з паўночна-заходняй часткі Амэрыкі.

Выстава пачалася 31-га жнівеня і трывала да 30-га верасьня. На выставе былі паказаныя працы 29-ці ведамых мастакоў з ЗША, Канады й Беларусі. Выстаўленыя працы былі адлюстраваньнем жыцьця Беларусі ў мінулым і сёньняшнім. Некалькі працаў адлюстроўвалі трагэдыю Чарнобыля.

У нядзелю, дня 22-га верасьня, было наладжанае прыняцьцё з нагоды выстаўкі, на якое прыехала шмат беларусаў з навакольных штатаў ды мясцовых жыхароў.

Кіраўніцтва музэю высака ацаніла выстаўку ды выказала жаданьне далейшага супрацоўніцтва.

**В. Русак**

## ТВОРЧАСЬЦЬ МАСТАЧКІ ТАМАРЫ СТАГАНОВІЧ

***(Выстаўка ў Горадні)***

«Амэрыка — мая Амэрыка» — мастацкая выстава Ст. Тамары адкрылася 3-га верасьня сёлета ў Горадзенскім Дзяржаўным Гісторыка-Археалягічным Музэі (у Сэймовай залі каралеўскага палацу).

Выстава была заплянаваная ад 3-га да 30-га верасьня, аднак, на пажаданьне ўдзельнікаў, тэрмін выставы быў прадоўжаны да 10-га кастрычніка.

На пагляд наведвальнікаў выстава праходзіць зь вялікім посьпехам:

«Самай значнай падзеяй гэтага тыдня ў культурным жыцьці Горадні было адкрыцьцё выставы Тамары Стагановіч. Эспазыцыя нашай славутай зямлячкі з Навагрудчыны прыцягнула столькі людзей, што яны ледзь зьмясьціліся у выставачнай залі Новага замку« (Людвік Сарока — «Пагоня»).

«На ўрачыстасьцях з нагоды падзеі, вельмі адметнай у культурным жыцьці Горадзеншчыны, прысутнічала першы сакратар пасольства ЗША у Рэспубліцы Беларусь Джэржэт Дэмірэй, у адрас якой, як і іншых арганізатараў выставы, гучэлі словы падзякі за магчымасьць для горадзенцаў добра пазнаёміцца з творамі вядомай ў Амэрыцы мастачкі Тамары Стагановіч» (Алена Г. «Гродзенская Праўда»).

На адкрыцьці выставы выступалі: Валянціна Царук, намесьніца дырэктара Горадзенскага гісторыка-археалягічнага музэю; Вачаслаў Брыкач, загадчык упраўленьня культуры Горадзенскага аблвыканкома; Аляксандар Мілінкевіч, старшыня абласнога грамадзкага аб'еднаньня «Ратуша»: Андрэй Майсяёнак, старшыня Горадзенскай краязнаўчай асацыяцыі ды галоўны ініцыятар выставы, і Сяргей Габрусевіч, старшыня Горадзенскага аддзелу Беларускага фонду культуры, які выказаўся — «Горадзенцы змогуць, дзякуючы выставе, бадай, упяршыню пабачыць Амэрыку... Выстава дае яскравае ўяўленьне пры прыгажосьць і непаўторнасьць гэтай зямлі...»



*«Зубры Елаўстонскага парку» — адзін з абразоў на выстаўцы Т. Стагановіч*

## ЦЁМНЫЯ ХМАРЫ ГРАМАДЗЯНСКАЕ ВАЙНЫ ВІСЯЦЬ НА БЕЛАРУСЬСЮ

Барыс Туманоў, маскоўскі карэспандэнт бэльгійскае газэты "La Libre Belgique", 14-га верасьня г.г. у артыкуле «Лебедзь адыгрывае ролю пажарнікаў», паведамляе:

Спынуўшы вайну ў Чачэні, Александар Лебедзь пакліканы перашкодзіць інашай, якая выглядае не пазьбежнай у Беларусі паміж прэзыдэнтам Лукашэнкам і Вярхоўным Саветам. Афіцыяльна матывуючы неабходнасьць абмеркаваць некаторыя праблемы агульнай абароны, пасьпешная й нечаканая паездка генерала Лебедзя ў Менск прадстаўляе ў сапраўднасьці спробу пазьбегнуць крызысу, перад тым як ёнператворыцца ў грамадзянскаю вайну.

Былы дырэктар калгасу, які прызнае паклоньнікам «адміністрацыйных талентаў» Адольфа Гітлера, сп. Лукашэнка абсалютна не вагаецца накідаць свае пагляды, нават калі гэта робіцца не на карысьць беларускай Канстытуцыі. Ды адначасна, ён жадае ўзаконіць і зьвекавечыць сваю асабістую дыктатуру рэфэрэндумам, які назначаны для зьмяненьня нацыянальнае Канстытуцыі. Аднак, выкананьне гэтага праэкту натыкаецца на ўзрастаючы супраціў Парлямэнту, які поўнасьцю падтрыманы ўсімі палітычнымі партыямі Беларусі, уключна з камуністамі.

### Разагрэтае да белага

Да апошніх дзён сп. Лукашэнка быў поўнасьцю пераканаңы, што ягоная прарасейская арыентацыя аўтаматычна яму гарантуе неагранічаную падтрымку Масквы. Але, устрывожаны пэрспэктываю прапановы недаверу, працэдуру, якую беларускі Парлямэнт пагражае распачаць, сп. Лукашэнка пасьпэшна паехаў у Маскву, дзе ён дарэмна стараўся атрымаць поўную свабоду для ўжыцьця сілы супраць Парлямэнту. Ягоны правал падбадзёрыў апазыцыю, правадыр якое, Сямён Шарэцкі (ён таксама зьяўляецца старшынёю Вярхоўнага Савету), зьвярнуўся да беларускага народу з заклікам перасьцярогай супраць пагрозы фашыстоўскае дыктатуры і заклікам не дапусьціць Лукашэнку ператварыць Беларусь у канцлягэр.

Гэтае папярэджаньне падняло палітычнае напружаньне ў Беларусі да белага накалу, дзе, паводля некаторых расейскіх крыніцаў, унутраныя войскі былі, прэзыдэнцкім загадам, пастаўленыя напагатове. Відавочна, заскочаны гэткай эвантуальнасьцю, Крэмль вагаецца якое заняць становішча ў гэтым крызісе, які пагражае ператварыць Беларусь у нешта падобнае да «палітычнай Чачэні».

Стараючыся пазьбегчы непаваротную дэстабілізацыю ў гэтай краіне, Масква адначасна адмаўляецца пакінуць, так важнага ў асобе Лукашэнкі гэапалітычнага саюзьніка. У гэтых абставінах місыя гэн. Лебедзя выглядае ня ў выбары палітычных праціўнікаў, а у шуканьні шляхоў да кампрамісу, які прымірыў бы авечку й капусту. Заданьне шмат цяжэйшае чымся палітычнае замірэньне ў Чачэні.

**Пераклаў Янка Жучка**

## ВОЛЬНАМУ СЛОВУ НА УКРАІНЕ ЎСЁ ЦЯЖКА

28-га верасьня супрацоўнікі Службы бясьпекі Украіны зрабілі напад на рэдакцыю львоўскай радыястанцыі «Вільне слово з Украіны», перадачы якое трансьлююцца на Беларусь.

Прычынай нападу, ці «праверкі дзейнасьці радыястанцыі» — як афіцыйна называлася акцыя, былі радыяпраграмы, прысьвечаныя палітычнай сытуацыі ў Беларусі ды ў прыватнасьці крытыка палітыкі Лукашэнкі.

Сродкі друку паведамілі гэтаксама, што на супрацоўнікаў радыё аказваецца псыхалягічны ціск з боку львоўскага адзьдзелу СБУ з дамаганьнем спыніць крытычныя праграмы.

Ведама гэтаксама, што прэзыдэнт Лукашэнка ў асабістай гутарцы па тэлефоне з кіраўніцтвам Украіны назваў праграмы як умяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі.

Падзея 17-га верасьня адлюстроўвае ўзровень свабоды інфармацыі на Украіне, у якой, як высьвятляецца, крытыкаваць Лукашэнку нельга!

## БЕЛАРУСКАЕ ПРАВА

28-га верасьня ўкраінскі друк паведаміў, што Вярхоўны Суд Беларусі адхіліў касацыйную справу адвакатаў, якія баранілі украінцаў з УНА-УНСОО, прысуджаных на пачатку месяца да пазбаўленьня волі тэрмінам ад 1-го да 2-х гадоў.

Вярхоўны суд гэтаксама адхіліў запыт пра прычыны адмовы разгледзець скаргу.

Пасьля заканчэньня судовага працэсу кіраўнік адвакацкае групы Ўладзімер Калесьнікаў быў пазбаўлены адвакацкае ліцэнзыі. што ёсьць выразнай помстай адвакату за выкананьне сваіх прафэсыйных абавязкаў.

У. Калесьнікаў мае намер зьвярнуцца да кіраўніцтва Украіны з просьбай палітычнага прытулку.

## У БЕЛАРУСАЎ НАЙВЫШЭЙШЫ ІНТЭЛЕКТ

Міжнародная арганізацыя асобаў з высокім інтэлектам (MENSA) зрабіўшы апытаньні жыхароў Беларусі апублікавала вынікі сваіх дасьледваньняў, адзначаўшы, што паказьнікі інтэлектуальнага ўзроўню беларусаў адны з вышэйшых у сьвеце.

## СЬВ. ПАМ. ВАЛЯНТЫНА РАГАЛЕВІЧ



26 жніўня 1996 г. раптоўна памерла на 54-м годзе жыцьця сьв. пам. Валянтына Рагалевіч з дому Захаркевіч.

Нарадзілася Валя на Палесьсі, адкуль ейныя бацькі выехалі ў Нямеччыну ў 1944 годзе. Па прыезьдзе ў Амэрыку на пачатку 1950-х гадоў сям'я Захаркевічаў, нацыянальна сьведамая і грамадзка актыўная, пасялілася ў Нью-Ёрку. Валя гадавалася ў беларускім асяродзьдзі, наведвала беларускую школу, у атмасфэры пашаны да ўсяго свайго, ды традыцыйных сямейных вартасьцяў. Была дзейнай сяброўкай Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, належала да танцавальных і харавых калектываў. Усё гэта залажыла, дало ёй моцную аснову для далейшага жыцьця, калі яна выйшла замуж за Сяргея Рагалевіча, калі нарадзіўся ў іх сын Міхась і дачка Лора. Узгадоўваючы дзяцей, яна брала актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці, была даўгі час ў 1970-х-1980-х гадах манаджэрам беларускага лецішча Бэлер-Менск, у догляд якога шмат працы на грамадзкай аснове ўлажыў таксама ейны муж Сяргей Рагалевіч.

Апошнімі гадамі нябожчыца працавала ў адміністрацыі Ратгэрскага ўнівэрсытэту ў Нью-Брансьвіку.

Паховіны адбыліся ў саўтрывэрскай царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай, прыхаджанкай якое была сьв. пам. Валянтына Рагалевіч. На паховінах было як ніколі многа людзей, якія сваёй прысутнасьцю засьветчылі і вялікую пашану да нябожчыцы, і глыбіню старты з прычыны ейнага передчаснага адыходу.

Абрад пахаваньня выканаў а. Мечыслаў Брынкевіч. Пахаваная сьв. пам. Валянтына Рагалевіч на беларускім магільніку ў Саўт-Рывэры.

Вечная памяць.

Пасьля кароткае, але цяжкое хваробы 1-га верасьня ў Чыкага закончыў свой жыцьцёвы шлях адданы сем'янін і шчыры беларускі патрыёт

## в.п. МІХАСЬ МАХНАЧ

аб чым зь вялікім сумам паведамляе сям'я нябожчыка

Сяргей Панізьнік

## БРАТКА

*На беларускіх магілках ў Кліўлендзе (ЗША, штат Агаё) пахаваны сьветлай памяці Сяргей Карніловіч, адзін з заснавальнікаў культурнага цэнтру «Полацак»*

І я спазнаў яго жытла абрус.
Яго вачыма песьціў Ніягару...
Зьлёг у Зямлю сардэчны беларус,
Пагас удалечы сьвячы агарак.

Так мала нас. І ў Докшыцах спаўна
бяды, што йдзе з выгнаньніцкіх
амэрык, —
бо зь Беларусі не спаўзла віна
былых недаацэнак, перамерак...

І ён, бязьвінны, быў на валасок
да забыцьця... Ды «Полацак»
узьнёсься, —
як бел-чырвона-белы паясок
над нівай дабрадзейнага
ўскалосься.

Так, застаецца нам уціхамір:
між акіянамі не гнецца кладка.
Таму няхай сагрэе жорсткі жвір
вось гэты несчужэлы покліч:
— Братка!

*(лістапад 1993 г. – жнівень 1996 г.)*

**Ахвяраваньні на дзейнасьць Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 200 |
| Ф. і В. Бартуль | 200 |
| А. Шукелойц | 200 |
| А. Рамана | 200 |
| Я. Азарка | 200 |
| А. Міцкевіч | 200 |
| В. і Г. Русак | 200 |
| К. Акула | 100 |
| У. Машанскі | 100 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 100 |

## «СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ» АДНОЎЛЕНАЯ

Сваім распараджэньнем прэзыдэнт Лукашэнка перавёў Беларускую прамыслова-гандлёвую Палату ў непасрэднае падпарадкаваньне Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Да гэтага моманту Палата з'яўлялася самастойнай установай, якая за дзесяцігодзьдзі дзейнасьці наладзіла трывалыя кантакты з найбуйнейшымі фірмамі шмат якіх краінаў сьвету. У якасьці экспэртаў тут працавалі вядомыя беларускія эканамісты і аўтарытэт Палаты ў бізнесовых сусьветных колах быў значны. Прэзыдэнцкае асяродзьдзе аднак палічыла, што «несправядліва», калі такая паважная структура знаходзіцца па-за кантролем улады, і раніцой аднаго верасьнёўскага дня супрацоўнікі Палаты атрымалі гаспадара — Івана Ціцянкова, таго самага, што пасьля рэфэрэндуму публічна парваў бел-чырвона-белы сьцяг. Будынкі, якімі карысталася прамыслова-гандлёвая Палата, гэтаксама перададзеныя Кіраўніцтву справамі прэзыдэнта.

**Ахвяраваньні на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| Я. Жучка | ам. дал. 100 |
| Я. Ханенка | 100 |
| В. Мельяновіч | 100 |
| Беларускі Нацыянальны Фонд (праз В. Цярпіцкага) | 100 |
| А. Субота | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| А. Стрэчань | 40 |
| Я. Вініцкі | 20 |
| Т. і А. Кольба | 30 |
| Ю. Найдзюк | 20 |
| Л. Кавалёў | 10 |
| М. Грэбень | 10 |
| А. Міцкевіч | 15 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| П. Барысік | ам. дал. 184 |
| М. і Г. Вайтовіч | 50 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| П. Зыбайла | 50 |
| Б. Кіт (замест кветак на магілу М. Шчорса) | 100 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| П. Брушкевіч | 50 |
| В. і М. Махнач | 500 |
| Г. Сінькевіч | 50 |
| В. Заморская | 100 |
| Л. і Э. Літаровіч | 100 |
| Б. і Т. Русак | 60 |
| С. Трыгубовіч | 10 |
| В. Бурак | 5 |
| В. і Т. Юшчык заміж кветак на магілу М. Махнача | 100 |
| В. Махнач (сабрана на паховінах М. Махнача) | 240 |
| Т. Бэрд | 40 |
| М. Калядка | 30 |
| А. Акуліч | 50 |
| Н. і І. Аляксандар | 30 |
| Л. Трусэвіч | 100 |
| В. і З. Кіпель заміж вянка на магілу В. Рагалевіч | 50 |
| Клава Муха заміж кветак на магілу Н. Стаськевіч | 50 |
| В. і З. Кіпель заміж вянка на сьвежую магілу Міхася Махнача | 50 |
| К. Акула | 50 |

**Ліста ахвярадаўцаў на газэту «Беларус» з Аўстраліі, праз сп-ню М. Мароз**

| | |
|---|---|
| П. Дарэўскі | ам. дал. 100 |
| М. Мігаль | 100 |
| М. Мароз | 50 |
| А. Мароз | 50 |
| М. Раецкі (малодшы) | 50 |
| М. Раецкі (старэйшы) | 30 |
| А. Бразоўскі | 100 |
| Е. Дамброўскі | 25 |
| А. Ніжнік | 50 |
| Ласкевіч | 30 |
| Беларускае Згуртаваньне Заходняй Аўстраліі | 48 |

**Фінансавая справаздача за жнівень 1996**

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| М. Сьнежка, заміж кветак на магілу А. Ліхача | ам. дал.75 |
| Л. Паплаўскі | 60 |
| А. Монід | 50 |
| Ю. Арцюшэнка | 30 |
| М. Бахар | 30 |
| В. Бурдзь | 30 |
| М.К. | 30 |
| Р. Кардонскі | 30 |
| В. Касьцюкевіч | 30 |
| Н. Кіт | 30 |
| І. Мол | 30 |
| У. Пелеса | 30 |
| А. Шостак | 30 |

**Фінансавая справаздача за верасень 1996**

| | |
|---|---|
| В. Навіцкі | 50 |
| К. Ліхач у памяць А. Ліхача | 40 |
| А. Клімовіч | 30 |
| Л. Мурог | 30 |
| Ж. Наумчык | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| Ю. Станкевіч | 30 |
| А. Яноўскі | 30 |

**Сабрана на Сустрэчы**

| | |
|---|---|
| Я. і К. Вініцкія | ам. дал. 200 |
| У. Набагез | 100 |
| М. Вайтовіч | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| У. і Н. Русак | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| Ананімна | 50 |
| Л. Норык | 30 |
| Н. Сагановіч | 30 |
| Л. Бакуновіч | 25 |
| Р. Завістовіч | 25 |
| А. і Н. Сільвановіч | 20 |
| К. і М. Верабей | 20 |
| М. Грэбень | 20 |
| Л. Рагуля | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Ф. Рабушка | 20 |
| А. Субота | 20 |
| Ул. Мікалай | 85 |
| Г. Мароз | 10 |
| В. Ягаўдзік | 10 |
| М. Каленік | 10 |
| М. Латушкін | 10 |
| Ю. Цінурка | 10 |
| В.С. | 5 |
| М. Ганько | 40 |
| Я. Ясьвіловіч | 300 |